


# Наша слова




-праграма

ЯГО АСАБІСТЫ СЦЯГ

Стар.2.

ШТО ПРАЎДА, ТО НЕ ГРЭХ

Стар.4.

Штотыднёвік (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) № 38 (302) 19 верасня 1996 г. Кошт -- 1000 рублёў

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **6 верасня Вярхоўны Савет прыняў пастанову пра правядзенне рэферэндуму**, але, акрамя 4 "прэзідэнцкіх" пытанняў, дэпутаты дадалі яшчэ свае. Так, напрыклад, грамадзяне краіны павінны будуць адказаць, ці падтрымліваюць яны Канстытуцыю 1994 г. са змяненнямі і дапаўненнямі, прапанаванымі дэпутацкімі фракцыямі камуністаў і аграрыяў. А змяненні істотныя, галоўнае з якіх адсутнасць інстытута прэзідэнцтва. Ці выступаюць яны за тое, каб кіраўнікі мясцовых органаў выканаўчай улады абіраліся непасрэдна жыхарамі адпаведнай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі. І ці згодныя яны, што фінансаванне ўсіх галінаў улады павінна здзяйсняцца галосна і толькі з дзяржаўнага бюджэту. Пастанова абавязвае Цэнтральную выбарчую камісію і мясцовыя саветы забяспечыць падрыхтоўку і правядзенне рэферэндуму. Кабінет міністраў павінен забяспечыць яго фінансаванне, а пракуратура і Міністэрства ўнутраных спраў павінны захаваць законнасць і правапарадак пад час галасавання. Рэферэндум адбудзецца 24 лістапада.

○ ***14 верасня ў газеце "Звязда" надрукаваны*** *вынесены на рэспубліканскі рэферэндум праект Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 года са змяненнямі і дапаўненнямі, прапанаванымі дэпутатамі фракцый камуністаў і аграрыяў. У артыкуле 17 напісана: "Беларуская і руская мовы з'яўляюцца афіцыйнымі мовамі Рэспублікі Беларусь". А якая мова дзяржаўная?*

○ **Утвораны арганізацыйны камітэт Усебеларускага кангрэса ў абарону Канстытуцыі супраць дыктатуры.** Яго ўзначаліў адстаўны міністр унутраных спраў Юрый Захаранка, а сустаршынямі абраны вядомыя ў нашай краіне палітыкі Генадзь Карпенка, Георгій Таразевіч, Аляксандр Бухвостаў і Генадзь Бураўкін. У аргкамітэт кангрэса ўвайшлі практычна ўсе партыі, грамадскія арганізацыі, вядомыя дзеячы палітыкі і культуры. Кангрэс намечана правесці 19 кастрычніка. Адначасова ў Менску плануецца правядзенне мітынгу ў абарону Канстытуцыі.

○ ***Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падпісаў распараджэнне,*** *якім зацвердзіў рашэнне спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай падтрымцы навучэнцаў і студэнтаў. Міністэрству фінансаў даручана выдзеліць спецыяльнаму фонду з рэзервовага фонду Прэзідэнта 210 мільёнаў рублёў. Можа ў фондзе Прэзідэнта знойдуцца грошы і на падтрымку беларускай культуры?*

○ **У кастрычніку уніяцкая (грэка-каталіцкая) царква на Беларусі будзе адзначаць 400-годдзе** падпісання Берасцейскай царкоўнай уніі. У сярэдзіне мінулага стагоддзя царскі ўрад афіцыйна ліквідаваў уніяцкую царкву. Але яна працягвала існаваць у Беларусі, перажыўшы некалькі адраджэнняў і перыядаў заняпаду. Шэсць гадоў таму назад уніяцкая царква зноў уваскрэсла, падтрыманая людзьмі, якія ўбачылі ў ёй сімвал духоўнага адраджэння нацыі.

○ ***У Валожынскім раёне ў Ракаве прайшлі Ракаўскія чытанні.*** *І не дзіўна, бо з Ракавам сваім жыццём і дзейнасцю звязаны такія вучоныя і пісьменнікі, як Мар'ян і Казімір Здзяхоўскія, Кастусь Стахоўскі, Уры Фінкель. Сюды да Здзяхоўскіх слаў свае лісты Леў Талстой, прыязджала Эліза Ажэшка. У Ракаве нарадзіліся, жылі, вучыліся пісьменнікі Таццяна Кабржыцкая, Вячаслаў Рагойша, Іван Клімянкоў, Марыя Шаўчонак, Язэп Янушкевіч, вядомыя мастакі браты Валерый і Фелікс Янушкевічы і іншыя. Трэба спадзявацца, што Ракаўскія чытанні адбудуцца і ў наступным годзе.*

○ **Аднавілася рэстаўрацыя Мірскага замка** — унікальнага помніка архітэктуры Беларусі XVI-XVII стст. Яшчэ ў студзені Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь накіравала на гэтыя мэты 5 мільярдаў рублёў, аднак грошы прыйшлі па прызначэнні толькі ў пачатку лета. Зараз ідзе рэстаўрацыя паўночнага крыла замка, якое сёлета будзе пакрыта дахам.

○ ***Пачалося будаўніцтва газаправода Ямал-Еўропа,*** *які працягнецца па тэрыторыі Беларусі на 570 кіламетраў. Паводле слоў генеральнага дырэктара акцыянернага таварыства "Белтрубаправод" Аляксандра Данца беларускі газаправод павінен уступіць у эксплуатацыю праз 14 месяцаў. Якая з гэтага карысць будзе Беларусі — пакуль невядома.*

○ **Толькі 1-2 працэнты кантактаў** беларускіх і замежных бізнесменаў прыносяць практычныя вынікі. І не дзіўна, бо хто хоча мець справу з людзьмі краіны, у якой не вельмі любяць багатых і прадпрымальнікаў.

○ ***Прыкладна толькі 10 працэнтаў жыхароў нашай краіны*** *можна аднесці да сярэдняга класа, 3 працэнты — да "новых беларусаў", астатнія трапляюць у разрад бедных. Сярод бедных, відаць, і ўсе дзеячы беларускай культуры.*

## Адсвяткавалі Дзень беларускай вайсковай славы

Удзельнікі ўрачыстасцяў з нагоды Дня беларускай вайсковай славы сабраліся раніцай 8 верасня ў скверы імя Я.Купалы. На заклік Беларускага Народнага Фронту адсвяткаваць "дзень перамогі беларускай зброі" адгукнулася прыкладна 3,5 тысячы менчукоў. Нягледзячы на невялікую, у параўнанні з веснавымі акцыямі, колькасць удзельнікаў, настрой іх быў вельмі рашучы. І хаця людзі сабраліся на святкаванне гістарычнай падзеі, у размовах і дыскусіях маніфестантаў дамінавалі тэмы больш надзённыя.

Прыкладна ў 11.30 народ выстраіўся ў калону і ходнікамі рушыў у бок Опернага тэатра, ля якога гарадскія ўлады дазволілі правесці мітынг і святочны канцэрт. Здзівіла і невялікая колькасць міліцыянтаў, якія ў гэты дзень займаліся сваімі непасрэднымі абавязкамі па ахове правапарадку і зусім не перашкаджалі людзям.

Мітынг прайшоў па накатаным сцэнары. Выступілі кіраўнікі БНФ Юрый Хадыка і Лявон Баршчэўскі, кіраўнік БЗВ Алесь Станкевіч, навукоўцы і грамадскія дзеячы, якія пасля традыцыйных згадак пра "слаўнае беларускае мінулае" больш падрабязна казалі пра скатванне краіны да дыктатуры і ўзурпацыю ўлады адной асобай. Але народ у гэты дзень сабраўся свядомы, агітаваць які не было патрэбы, напэўна, таму многія слухалі прамоўцаў не вельмі ўважліва. Арыгінальным было выступленне хіба што В.Сіўчыка, які параўнаў "бацьку" з адной не вельмі сімпатычнай жывёлай. Пасля мітынгу, як і год, і два таму, быў канцэрт з традыцыйным хітом Касі Камоцкай "Прэзідэнт, ідзі дамоў".

Шчыра кажучы, гледзячы на гэта, рабілася сумна, і склалася ўражанне, што арганізатары абсалютна не займаліся мастацкім бокам свята, а рыхтаваліся да палітычнай акцыі.

Увечары расійскае тэлебачанне паказала ўрачыстае святкаванне ўгодкаў Барадзінскай бітвы. Сябры вайскова-патрыятычных клубаў, апранутыя ў расійскую і французскую вайсковыя формы XIX ст., разыгралі адзін з эпізодаў баталіі.

Прысутнічаў пасол Францыі і прадстаўнікі расійскага ўрада. Нікому і ў галаву не прыходзіла выказваць думку, што святкаванне Барадзінскай бітвы можа пагоршыць французска-расійскія адносіны.

Паралелі можа быць не вельмі дарэчныя, бо ў надта розных палітычных умовах жывуць сёння беларусы і расіяне, і тым больш рознае стаўленне нашых народаў і ўладаў да ўласнай гісторыі. Але вельмі хочацца, каб і ў нас урачыстасці Аршанскай, Грунвальдскай ці якой іншай бітвы былі сапраўдным народным святам.

**Язэп СІНІЦКІ.**

## ТБШ зарэгістраванае

Напярэдадні новага школьнага года — 30 жніўня — і пасля шэрагу адмоваў кіраўніцтва створанага сёлета Таварыства беларускай школы атрымала нарэшце ў Міністэрстве юстыцыі рэгістрацыйнае пасведчанне з нумарам 0760. Як не дзіўна, але імя Браніслава Тарашкевіча, якое маладой арганізацыі напачатку надалі яе стваральнікі, у атрыманы ад дзяржавы дакумент не ўвайшло.

Такім чынам, нягледзячы на перашкоды, цяпер адкрыта і легальна можа дзейнічаць яшчэ адна беларуская нацыянальная арганізацыя, маючая статус краёвай.

Асноўнымі мэтамі ТБШ, згодна з яго Статутам, ёсць:

- садзейнічанне стварэнню сучаснай сістэмы нацыянальнай асветы і адукацыі;
- спрыянне бесперапыннай адукацыі на беларускай мове ад дзіцячага садка да ВНУ;
- культурна-асветніцкая праца з дзецьмі, моладдзю і дарослымі дзеля фармавання ў іх нацыянальнай свядомасці і засваення імі агульначалавечых каштоўнасцяў.

Таварыства беларускай школы запрашае зацікаўленых асобаў на свае пасяджэнні, якія будуць адбывацца што трэцяе пятніцы кожнага месяца а 16 гадзіне ў сталічнай сядзібе Таварыства беларускай мовы (вул. Румянцава,13).

Кантактныя тэлефоны ў Менску: 248-32-02 (Аляксандр Сядзяка, віцэ-прэзідэнт ТБШ), 232-47-01 (Алесь Лозка, віцэ-прэзідэнт ТБШ).

## Паведамленне ТБШ

У Таварыства беларускай школы вусна і лістова звяртаюцца сябры з Пінска, Баранавічаў і іншых мясцінаў з пытаннямі аб атрыманні Статута ТБШ і іншых праграмных дакументаў. Не маючы магчымасці даць усім ім асабісты пісьмовы адказ, кіраўніцтва ТБШ звяртаецца да сваіх сяброў праз газету.

Атрымаўшы рэгістрацыю, кіраўніцтва ТБШ шукае магчымасці тыражавання і распаўсюджвання сваіх праграмных дакументаў.

Тым часам просім нашых сяброў звярнуць увагу на выяўленне парушэнняў законаў аб мовах, аб адукацыі, моўных і этнічных правоў грамадзян. Пра падобныя факты просім паведамляць нам, а таксама газеце "Наша слова" ды іншым сродкам масавай інфармацыі. Вашыя сведчанні стануць часткамі збору дакументаў аб злачынствах супраць беларускай мовы.

Адрас канцылярыі ТБШ: 220085, Менск, пр.Ракасоўскага,93. Таксама можна звяртацца і ў ТБМ, з якім мы цесна супрацоўнічаем.



На праспекце Машэрава ў Менску адбыўся музычны фестываль "Рок чыстага неба-96". Арганізавалі яго радыё "Бі Эй" і гарвыканкам. У ім прынялі ўдзел расійскія рок-групы "Арыя" і "Містэр Твістэр", а таксама беларускія групы "Крама", "Рублёвая зона", "Буржуазія" і іншыя.

**На здымку:** На плошчы ля Палаца спорту. Звычайна апошнім часам тут дазвалялася мітынгаваць апазіцыі.

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БелТА.**

*Дзеючыя асобы*

# Яго асабісты сцяг

Селянін-аднаасобнік з вёскі Выгар Лагойскага раёна Леанід Валуй падаў зыск у мясцовы народны суд на тамтэйшы райаддзел унутраных спраў за знявагу свайго нацыянальнага і чалавечага гонару ды годнасці. Так ён сустрэў 5-гадовы юбілей надання Дэкларацыі аб незалежнасці і суверэнітэце Беларусі канстытуцыйнай сілы.

Пачалося вось з чаго. У жніўні 1991 года, калі Беларусь нібыта ўсур'ёз набыла дзяржаўную незалежнасць, 40-гадовы на той час будаўнік і сялянскі сын Леанід Валуй вярнуўся з Эстоніі, дзе працяглы час жыў і працаваў, да маці ў вёску Выгар.

У Эстоніі ён набыў пэўны вопыт гаспадарання і спадзяваўся, што Айчыне гэта спатрэбіцца, пойдуць рэформы эканомікі, а тады ён, працаўнік Валуй, здолее нават стаць фермерам. Сялянскую справу, як і будаўнічую, як ужо гаварылася, ён ведаў добра. Хату старую адрамантаваў, з толкам, а дакладней — занава перабудаваў — на два ярусы зрабіўшы катэдж. А вось з фермерствам "няўвязачка" атрымалася. Два гады запар прасіў мясцовыя ўлады выдзеліць 14 гектараў зямлі, сем з якіх — спрэс балаціны, але больш гектара не атрымаў.

Так пацярпела надзея гэтага беларуса стаць сапраўдным землеўладальнікам, гаспадаром-таваравытворцам. Тым не меней, Леанід заняўся на сваім гектары садаводствам, вырошчваннем бульбы, морквы, капусты ды іншых культураў на продаж, што дазволіла яму неяк зводзіць канцы з канцамі.

Але неажыццёўленая мара аб фермерстве не азлобіла чалавека на ўвесь белы свет. Наадварот, Леанід Валуй яшчэ больш прывязаўся да родных мясцін. Стаў яшчэ больш, між іншым, цікавіцца беларускай моваю, якой выдатна валодае, роднай літаратурай і праўдзівай гісторыяй. Як ён паведаміў, газеты "Наша слова", "Свабода", "Наша ніва" сталіся ягонымі першымі дарадцамі ды памагатымі ва ўмацаванні нацыянальнай самасвядомасці.

А яшчэ на ўласным падворку Леанід усталяваў флагшток, а на ім прымацаваў бел-чырвона-белы сцяг, прызнаўшы яго "сваім".

Кожны дзень гэты гістарычны сімвал беларускасці натхняў свайго гаспадара напамінкам, што ён — беларус, што жыве ў сваёй роднай краіне. Штодня ўласны сцяг натхняў Леаніда і на сялянскую нялёгкую працу — працу ягоных продкаў. Рабіў упарта і якасна.

Але ж палітычныя віхуры дабраліся і да аддаленай ад Менска, Лагойска і нават Плешчаніцаў вёсачкі Выгар. Нядаўна без Леанідавага дазволу на ягонае селішча завіталі міліцыянты з Лагойскага РАУС. І завіталі, зразумела, не дзеля таго, каб павіншаваць Леаніда з пятымі ўгодкамі вяртання з чужыны дамоў ці з пяцігадовым юбілеем надання Дэкларацыі аб незалежнасці і суверэнітэце краіны канстытуцыйнай сілы.

Вось што сказаў мне на дыктафонную плёнку з нагоды гэтага візіту сам спадар Леанід Валуй:

— Я на той час якраз адлучыўся з хаты ў лес, хацеў трохі назбіраць грыбоў. Прыходжу дамоў. Мама надзвычай узрушаная. Кажа: прыязджалі міліцыянты і забралі сцяг — участковы ды намеснік начальніка Лагойскага РАУС.

Старую жанчыну слухацца не сталі: "канфіскавалі" сцяг без усялякае на тое матывацыі і тлумачэнняў, нават акта не склалі. Толькі "пісульку" пасля сябе пакінулі, каб у сельсавет назаўтра з'явіўся. А я назаўтра не ў сельсавет, а ў райпракуратуру завітаў са скаргай на гэткае самавольства. Пракурора раёна не сустрэў, але там быў ягоны памочнік, і той мне сказаў, што дзеянні міліцыянтаў — неправамерныя. Бо не прад'явілі мне на такую сканфіскацыю ніякіх падстаў: нават не пазнаёмілі з тым артыкулам з кодэкса законаў, дзе тлумачылася б: забараняецца ў прыватным доме ў прыватным парадку выкарыстанне той сімволікі, якая падабаецца грамадзяніну ці не? Я лічу: бел-чырвона-белы сцяг — сімвал гістарычны, яго ніхто не забараняў, прынамсі Вярхоўная Рада такой пастановы нават не прыняла. Ну няхай гэты сцяг страціў статус сімволікі дзяржаўнай, але ж яна застаецца, як я ўжо казаў, сімволікай гістарычнай. Нават Гітлер, калі дарваўся да ўлады і прыняў за сімвал чырвоны сцяг з фашыстоўскай свастыкай у цэнтры палотнішча, і то не забараніў спрадвечны трохколер Германіі. І гістарычны сцяг пасля краху гітлераўскай дзяржавы зноў стаў сцягам дзяржаўным...

Шкада, што пракурор раёна спадар Лысенка гэткімі развагаммі не кіраваўся. Ён прыслаў Леаніду Валую адказ: маўляў, міліцыянты маюць рацыю, бо нельга па дзеючым заканадаўстве вывешваць неза-рэгістраваныя сцягі ды вым-пелы ў... грамадскіх месцах.

Чаму ж — незарэгістраваныя? І пры чым тут "грамадскае месца", калі гэта прыватны двор?

Леанід Валуй, які з'яўляецца сябрам БНФ, слушна заўважае: бел-чырвона-белы сцяг зарэгістраваны як сцяг Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне", БСДГ, іншых партый нацыянальна-дэмакратычнага накірунку.

Вось чаму на райаддзел міліцыі, які, па меркаванні спадара Валуя, парушыў ягонае канстытуцыйнае права на свабоднае волевыяўленне сваіх перакананняў і палітычных поглядаў, абразіў нацыянальны і чалавечы гонар і годнасць, нарэшце, замахнуўся на прыватную ўласнасць селяніна (ужо не гаворачы аб грубых парушэннях правоў Чалавека), селянін падаў зыск у Лагойскі раённы нарсуд.

— Я ведаю, што не выйграю гэты суд, бо ў цяперашні смутны час, калі на вачах усяго свету топчуцца па Канстытуцыі і правах чалавека, калі маючыя ўладу адкрыта адмаўляюцца выконваць законы, ніхто з таго ж суда не стане на абарону маіх правоў мець гэткія або іншыя перакананні,— сумна заўважае Леанід Валуй, а затым рашуча дадае: — І ўсё ж я буду да канца змагацца за права на сваёй зямлі, хаця вось на гэтым яе лапічку быць Чалавекам, быць беларусам. Прайграю суд у Лагойску — буду падаваць абскарджанні ў вышэйшыя інстанцыі. Я змагаюся не толькі за сябе, але за Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь таксама, за Беларускую дзяржаву.

Селянін дае зрусіфікаванаму чыноўніцтву ўрок беларускасці.

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА, сябра Беларускага Хельсінкскага камітэта, карэспандэнт "Нашага слова".**

*Уражанні*

# "Абы выручка"?

Пасля выхаду ў свет у 1990 годзе прынятага Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь Закона аб мовах назвы фільмаў на рэкламных шчытах ля кінатэатра "Беларусь" у Слуцку сталі пісаць па-беларуску. У галоўным кінатэатры "Цэнтральны" рэклама засталася расійскамоўнай. Уважыліся інтарэсы і пераважнай большасці жыхароў беларусаў, і прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў. Калі ў мастака, што пісаў рэкламу для "Беларусі", узнікалі сумненні ў дакладнасці перакладу назваў фільмаў на беларускую мову, на дапамогу прыходзілі, па ягонай просьбе, супрацоўнікі раённай газеты.

Але вось пасля рэферэндуму тут зноў вярнуліся да старога — сталі пісаць рэкламу па-расійску, як і пяць гадоў назад. Пазваніў дырэктару кінавідэапракату раёна Мікалаю Фёдаравічу Прахарэні, па чыёй волі зроблены такі "переварот" з душком беларусафобіі.

— Я званіў у абласны пракат наконт мовы рэкламы, то там сказалі: на якой хочаш мове, на той і пішы, галоўнае, каб была выручка ў кінатэатры. Назвы беларускіх фільмаў будзем пісаць па-беларуску, усіх астатніх — па-расійску.

Але дзе ў нас тыя беларускія фільмы, можа адзін у год і паступае ў кінапракат, усе астатнія, а гэта дзесяткі стужак, выключна вытворчасці ЗША, зрэдку — Францыі і Італіі.

Не ведаю, хто даваў яму ў вобласці такую параду, але ж трэба, як кажуць, і свой розум мець, паважаць гледачоў горада беларусаў, а яны складаюць не менш як 80 працэнтаў жыхароў. І не забываць, што прыярытэт роднай мовы ў грамадстве будзе і надалей абараняцца перш за ўсё ў школах, установах культуры, таму пагроза канчатковага выцiску беларускай мовы з ужытку ва ўсіх сферах грамадскага жыцця ў апошні час абвастрылася.

Аб сваёй размове з М.Прахарэнем я расказаў загадчыцы аддзела культуры гарвыканкама Тамары Іванаўне Шахновіч. Яна падзяліла маю трывогу, але заначыла, што кінатэатры па-за сферай уплыву падначалення ёй аддзела. Няхай і так. Але ж па статусу сваёй работы ёй, як і кожнаму інтэлігенту горада, сёння трэба быць актыўным абаронцам роднай мовы ад яе зневажальнікаў розных рангаў. Пазіцыя "мая хата з краю" ў такой сітуацыі толькі на карысць беларусафобам, аб чым сведчыць і такі факт. З нагоды 880-х угодкаў заснавання Слуцка, што прайшлі на днях, праграма святочных мерапрыемстваў па заказу і на сродкі гарвыканкама была аддрукавана масавым тыражом на... расійскай мове, а прысвечаная гэтай даце брашура — аж на трох мовах: нямецкай, англійскай і расійскай. Для беларускай месца не знайшлося! Быццам Слуцк знаходзіцца не ў цэнтры рэспублікі, а недзе на Пскоўшчыне ці каля Разані.

**М.ТЫЧЫНА.**
г.Слуцк.

*Максім ЛУЖАНІН*

# Зарубкі для памяці

Мова. Заўсёдная рупнасць мая.

Дзеля цікавасці выводжу на белы свет з газет і папер весткі перапісу 1970 г.: беларусаў усяго ў СССР (тыс.) 9.052; у рэспубліцы — 7.290; за межамі яе — 1.762. Родлай беларускую мову назвалі 80,6%. У параўнанні з перапісам 1959 года менш на 3,6%. Зраклося. І ўсё ж! 80,6% гэта, як ні лічы, 7.304.912 чал. Значыць,— вельмі цікава! — роднай прызналі мову ўсе жыхары рэспублікі і 114.902 чалавекі з тых, што жывуць за яе межамі!

Другая табліца ўдакладняе, што роднай мову лічаць: з 86.899 тысяч жыхароў рэспублікі: беларусы — 6.571 тысяча; людзі іншых нацыянальнасцяў — 0.328 тысяч. Што атрымалася? Хоць 719 тыс. зраклося нацыянальнасці (7.290-6.571), затое 328 тыс. прыезджых палюбілі мову так, што прызналі за сваю!

Шкада, вядома, такое ўтраты, тым больш, што на Украіне назбіралася 10 працэнтаў жыхароў, якія не назвалі сябе ўкраінцамі, а роднай мовай абвясцілі ўкраінскую! Не ў тым рэч, што ўкраінцы перацягнулі, так сказаць, ад нейкіх іншых нацый пэўную і немалую колькасць грамадзян. Не, яны, гэтыя грамадзяне, не лічаць сябе ўкраінцамі, а мову прызналі за родную, так палюбілі.

Хвала за гэта перш за ўсё народу!

А нам, майстрам працавітага, гераічнага, дасціпнага, умелага народа, ніяк не ў гонар тое, што паказаў перапіс. Мала гарнулі да свае мовы, свае літаратуры, не так, як належыць, шанавалі вялікую спадчыну, здабыткі Коласа і Купалы, іх літаратурны і грамадзянскі подзвіг. Калі гэтак здарылася, значыць, пісалі мы не так добра, як расказваем у дакладах аб росквіце нацыянальнай культуры. Гэтыя зарубкі для памяці рабіліся ў красавіку 1971 года пад уражаннем вынікаў перапісу. Калі на двор ступіў ліпень 1994-га, даваліся схапіцца за галаву. Бацькі (!) пратэстуюць (!!) супраць адказанага ім у спадчыну бацькамі. Паўстаюць супраць беларускамоўнай школы, змушаюць дзяцей манкіраваць заняткамі, прымыкаюць іх дома, каб раптам самі не далі ходу на ўпадабаныя ў школе парты, да ласкавых настаўнікаў, з чыіх вуснаў плыве такая любая, такая свойская мова.

Пачаліся гэтыя "школьныя забастоўкі", наколькі помню, з Гародні (!), сталіца ж, вядома, не асталася ў баку. Тым больш, што тут не хавае нежадання гаварыць на роднай мове той, хто, лічачыся першай асобай рэспублікі, клаў руку на Канстытуцыю дзяржавы і прысягаў выконваць яе, значыць бараніць суверэнітэт, цэласнасць, самабытнасць і мову.

Рука не падымаецца называць усе імёны абыякавых і непрыхільнікаў усяго нашага добрага. І так на іхніх тварах будуць доўга гарэць плямы сораму перад людзьмі, якія з малых дзён любяць і шануюць багацце — сваё і суседскае.

# Даты і падзеі ў верасні

**14** — 75 гадоў таму ў Вільні выйшаў першы нумар штотыднёвай газеты "Беларускія ведамасці", рэдактарам-выдаўцом якой быў М.Гарэцкі. Выдавалася да 15.01.1922 года.

— 75 гадоў з дня нараджэння Вольгі Мельнікоўскай, гісторыка, археолага, кандыдата гістарычных навук, адкрывальніцы на Беларусі археалагічнай мілаградскай культуры, якую, паводле яе меркавання, стварылі нашыя прашчуры, што жылі на поўдні краіны — на Палессі.

— 70 гадоў з дня нараджэння мовазнаўца Льва Шакуна, даследніка гісторыі беларускай літаратурнай мовы, аўтара манаграфічных прац "Нарысы па гісторыі беларускай літаратурнай мовы" (1960 г.), "Гісторыя беларускай літаратурнай мовы" (1963 г.) ды іншых.

**15** — 135 гадоў таму Францішак Багушэвіч быў залічаны студэнтам Імператарскага Санкт-Пецярбургскага універсітэта "па матэматычнаму разраду".

— 85 гадоў з дня нараджэння паэта Юлія Таўбіна.

**16** — 50 гадоў з дня нараджэння паэта Сяргея Законнікава, галоўнага рэдактара часопіса "Полымя".

— 50 гадоў з дня нараджэння Анатоля Казловіча, пісьменніка і журналіста, галоўнага рэдактара газеты "Круг".

**17** — 105 гадоў з дня нараджэння Аркадзя Смоліча, дзеяча адраджэння, рэдактара газеты "Грамада", аўтара падручніка "Геаграфія Беларусі".

— 80 гадоў таму ў Вільні быў адкрыты Беларускі клуб. На ўрачыстай вечарыне з гэтай нагоды артысты тэатра Францішка Аляхновіча наладзілі канцэрт.

**19** — 270 гадоў таму папа Бенядыкт XIII даў дазвол на каранацыю цудатворнага абраза Маці Божай, які знаходзіцца ў базыльянскім кляштары мястэчка Жыровічы.

— 50 гадоў з дня нараджэння мастака Ягора Батальёнка.

**21** — 195 гадоў таму ўказам цара Аляксандра І на беларускіх абшарах былі створаны Віленская, Віцебская, Гарадзенская, Магілёўская і Менская губерні.

**22** — 760 гадоў таму вялікі князь Літвы Міндоўг атрымаў першую значную перамогу над войскам Лівонскага ордэна: толькі кожны дзесяты лівонскі рыцар вярнуўся дамоў.

**23** — 225 гадоў таму расійскае войска пад камандаваннем Аляксандра Суворава разбіла войска вялікага гетмана ВКЛ Міхала Казіміра Агінскага ў начным баі ў мястэчку Сталавічы (цяпер Баранавіцкі раён).

— 80 гадоў таму закончыліся першыя беларускія настаўніцкія курсы (вучоба працягвалася з лістапада 1915 года).

— 50 гадоў з дня нараджэння мастака Сымона Свістуновіча.

**24** — 355 гадоў з дня нараджэння Станіслава Незабітоўскага, мемуарыста, аўтара ўспамінаў пра падзеі 1682-1700 гг. на Наваградчыне і Случчыне.

— 335 гадоў таму ўсвяцкая шляхта і мяшчане гэтага горада падалі "чалабітную" цару Аляксею Міхайлавічу з просьбай не прымушаць іх "высылаць у Віцебск дзеля будаўніцтва і рамонту гарадскіх умацаванняў", а таксама вызваліць іх ад пабораў на гарадавое будаўніцтва, бо спрадвеку такога не было.

— 175 гадоў з дня нараджэння Цыпрыяна Норвіда, польскага паэта, мастака, скульптара.

— 60 гадоў з дня нараджэння этнографа Ніны Буракоўскай, кандыдата гістарычных навук.

**25** — 90 гадоў з дня нараджэння Дзмітрыя Шастаковіча, расійскага кампазітара, педагога, грамадскага дзеяча, народнага артыста СССР, героя сацыялістычнай працы, дзед якога паходзіў з Вілейшчыны.

— 75 гадоў таму Урад БНР у эміграцыі склікаў у Празе Беларускую нацыянальна-палітычную канферэнцыю, на якую прыехала 37 прадстаўнікоў розных беларускіх партыяў і арганізацыяў.

— 60 гадоў з дня нараджэння Зінаіды Рудакоўскай, мовазнаўца і педагога, кандыдата філалагічных навук.

— 25 гадоў таму быў адкрыты мемарыяльны комплекс "Брэсцкая крэпасць-герой": пад бетонам былі пахаваныя рэшткі будынкаў старажытнага Бярэсця, у тым ліку і царквы святога Мікалая, дзе ў 1596 годзе была падпісана унія.

**26** — 60 гадоў з дня нараджэння этнографа Элы Сабаленкі, кандыдата гістарычных навук.

**Падрыхтаваў З.С.**

*Надзённае*

# У Беларусі меншасці ўсе?

Ігар Бабкоў нарадзіўся ў 1964 годзе ў Гомелі. Скончыў аддзяленне філасофіі БДУ і там жа аспірантуру. Стажыраваўся ў Лонданскім універсітэце, пазней — у Варшаўскім. З 1987 года пачаў удзельнічаць у розных беларускіх грамадскіх праектах. Ад самага пачатку іх удзельнікі кіраваліся не на афіцыёз, хай нават і маючы беларускае аблічча, не на ўваходжанне ў дзяржаўныя структуры. Іхнія ўтварэнні — "Тутэйшыя", "Беларускае навукова-гуманітарнае таварыства", газета "Наша ніва" — сталі часткамі гісторыі сучаснай нацыянальнай культуры.

Каля чатырох гадоў таму ўдзельнікі гэтых супольных праектаў пачалі кожны сам для сябе вызначаць кірункі далейшай дзейнасці. У выніку ў 1994 годзе Ігарам Бабковым і ягонымі аднадумцамі быў створаны Цэнтр еўрапейскіх доследаў і культурных ініцыятываў "Эўрафорум" — недзяржаўная і некамерцыйная арганізацыя, маючая даволі складаную структуру. Яна працуе і як выдавецтва, і як доследная арганізацыя, а таксама рэалізуе распрацаваныя ў ёй праекты.

Разгляду дзейнасці "Эўрафоруму" ды поглядам яго кіраўніка на стан беларускага грамадства і была прысвечаная сустрэча Ігара Бабкова з карэспандэнтам "Нашага слова".

**— Што было зроблена вамі за гэтыя два гады?**

— Мы надрукавалі дзве кнігі — "Нацыяналізм у XX стагоддзі" Энтані Сміта і "Уводзіны ў палітыку" Жана Мары Пант'е і Шарля Дэбаша. Мы ўдзельнічаем у рэалізацыі выдавецкай праграмы фонду Сораса "Адкрытае грамадства". У Скарынаўскім цэнтры мы правялі шэраг семінараў, прысвечаных філасофіі, культуралогіі і літаратуры Сярэдняй Еўропы. А год таму мы пачалі рэалізацыю даўняй нашай ідэі выдання інфармацыйна-культурнага бюлютэня, у якім разглядаліся б праблемы нацыянальных, рэлігійных ды моўных меншасцяў Беларусі. Праект выдання, што даследавала б беларускія меншасці, быў падтрыманы фондам Сораса і дзякуючы таму пасьпяхова рэалізаваны. Як і было запланавана, раз на квартал мы выдаём новы бюлетэнь, і сёлета выйшаў ужо чацвёрты нумар гэтага выдання, якое атрымала назву "Форум". Да таго ж, у друку знаходзіцца першы нумар філасофска-культуралагічнага квартальніка "Фрагмэнты".

**— Як узнікла ідэя стварэння выдання пра нацыянальныя меншасці?**

— З разумення парадаксальнасці моўнай, рэлігійнай і нацыянальнай сітуацыі ў нашай краіне: меншасцямі тут з'яўляюцца ўсе. У Беларусі няма ніводнай сацыяльнай, ідэалагічнай ці культурнай групы, якая магла б называцца большасцю.

**— Але ж стаўленне насельніцтва да першай асобы краіны і яе ініцыятываў сведчыць хутчэй аб адваротным?**

— За апошнія два гады ў грамадстве выкрышталізавалася група, якую можна было б назваць умоўнай большасцю. Але яна не мае ні культурнай, ні моўнай уласнай ідэнтычнасці. Яе самавызначэнне часовае, яно базуецца выключна на збегу абставінаў ды настальгіі па былых часах. Яна не з'яўляецца сацыяльнай групай у традыцыйным разуменні сацыёлагаў. Яе ідэнтычнасць створаная і утрымліваецца штучна, яна — палітычная, а не соцыякультурная і гэта не надае гэтай групе трываласці. Да таго ж, яна складаецца пераважна з прадстаўнікоў старога пакалення і не папаўняецца моладдзю. Не трэба быць сацыёлагам, каб зразумець, што з гэтага вынікае.

**— Раскажыце пра сваё выданне больш падрабязна.**

— Калі пачынаць з мовы нашых публікацый — яна беларуская. Мы карыстаемся правапісам Тарашкевіча. Тэксты ж нашых аўтараў друкуюцца таксама па-беларуску альбо адной з яшчэ трох моваў, якімі мы карыстаемся, — польскай, украінскай ці расійскай. Гэта вынікае з нашага жадання аб'ектыўна адлюстраваць моўны стан у Беларусі, дзе існуе не прапагандуемае ўрадам беларуска-расійскае двухмоўе, а сітуацыя значна больш складаная. Існуе некалькі моваў (менавіта імі мы і карыстаемся), якія дастаткова добра разумеюць не выключна адукаваныя людзі, а пераважная большасць насельніцтва — ад эліты да сацыяльных нізоў.

**— Памер накладу "Форуму" — 499 асобнікаў — сведчанне таго, што гэта выданне не масавае.**

— Беларускі Закон аб друку дазваляе выдаваць без рэгістрацыі такія, як наш бюлетэнь, выданні накладам да 500 асобнікаў. Наш часопіс і сапраўды не масавы, але такі яго наклад — найперш вынік адсутнасці ў нас жадання рэгістравацца, а значыць, нейкім чынам падпарадкоўвацца дзяржаве — атрымліваць нейкія папярэджанні з Камітэта па друку і ўзгадняць з дзяржаўнымі чыноўнікамі змест нашых публікацыяў.

**— Хто чытае "Форум"?**

— Найперш людзі, для якіх і пра якіх мы пішам. Выданне бясплатна распаўсюджваецца ў асяродках польскіх, татарскіх, украінскіх ды іншых. Там яго добра ведаюць. Мы дасылаем яго ў дзяржаўныя структуры, якія займаюцца нацыянальнымі праблемамі. У выніку нашая рэдакцыя была запрошаная на апошні фестываль нацыянальных меншасцяў Беларусі, а такія запрашэнні атрымалі далёка не ўсе.

Нас чытаюць і тыя, што цікавяцца культурнымі традыцыямі не толькі свайго, але і іншых народаў Беларусі, і тыя, каго непакояць праблемы рэалізацыі грамадзянскіх правоў жыхароў краіны. Мы ўпершыню пераклалі на беларускую мову і друкуем практычна ўсе міжнародныя пагадненні, якія тычацца нацыянальных меншасцяў. Такім чынам ствараецца база юрыдычных дакументаў, адкрытая для кожнага.

Нашае выданне адметнае тым, што на яго старонках могуць без усялякіх абмежаванняў выказвацца прадстаўнікі ўсіх нацыянальных групаў краіны. Мы прынцыпова не рэдагуем напісаныя імі тэксты і не абмяркоўваем пазіцыяў іх аўтараў.

А ўвогуле "Форум" дае магчымасць удзельнікам розных нацыянальных арганізацый і асяродкаў быць пачутымі за межамі сваіх супольнасцяў. Бо "Глос з-над Немна" чытаюць амаль выключна палякі, "Авів" — габрэі і гэтак далей. Нас чытаюць усе.

**— Людзі, якія называюць сябе адраджэнцамі і спасылаюцца на тое, што 8 з 10 жыхароў краіны — беларусы, часта паводзяць сябе менавіта як меншасць, замыкаючыся ў сваім ізаляваным асяроддзі. Як Вы глядзіце на гэта?**

— Нельга вызначыць этнічных беларусаў ані як меншасць, ані як большасць. Структура грамадства значна больш складаная. У сярэдзіне шматмільённай беларускай большасці ёсць выразная група культурнай меншасці, якая складаецца з людзей — носьбітаў нацыянальнай культуры ва ўсіх яе праявах, якія цалкам і адназначна ідэнтыфікуюць сябе з ёй. Але, нягледзячы на гэта, беларуская культура не ёсць культурай меншасці. Што тычыцца адносна невялікай лічэбна групы яе носьбітаў, дык яна, на мой погляд, сёння з'яўляецца найбольш дынамічнай і мабілізаванай часткай грамадства — гэта выразна паказалі падзеі апошняга часу. А галоўнае — гэтая група адкрытая. Бо сёння ідэнтыфікацыя асобы з беларускай культурай не залежыць ад этнічнага паходжання. Людзі самі выбіраюць сабе культурнае (у поўным сэнсе гэтага слова) асяроддзе і вызначаюць сваю нацыянальную прыналежнасць. Якраз таму сёння ў беларускіх асяродках ёсць мноства людзей татарскага, польскага, украінскага, расійскага паходжання.

А беларусы, як большасць... Крытэрыем прыналежнасці да яе з'яўляецца не мова — ёсць беларуска- і расійскамоўныя беларусы, хаця вельмі нязначная частка апошніх з'яўляецца цалкам расійскамоўнай. Разам з тым ёсць кола сімпатыкаў беларускай культуры, якія разумеюць мову, але з розных прычын не карыстаюцца ёй. Ёсць і іншыя групы, раз'яднанасць якіх ператварае іх у меншасці.

**— Аднак цікаўнасць да праблем меншасцяў у Вас выклікае разуменне сваёй прыналежнасці да большасці?**

— Якая мае быць гарантам правоў іншых нацыянальных групаў. Цікава, што яны — як жывучыя тут здаўна, так і новыя — карэйцы, азербайджанцы ды іншыя — маюць тыя ж самыя праблемы, што і беларусы. Гэта праблемы захавання мовы, адраджэнне нацыянальных традыцый... Стан меншасцяў — гэта адлюстраванне агульнага стану грамадства.

**— Сёння ў краінах Заходняй Еўропы імігранты — прадстаўнікі новых нацыянальных меншасцяў дамагаюцца для сябе роўных грамадзянскіх правоў, бо яны ўжо занялі свае месца ў эканоміцы і іншых сферах жыцця. Ці назіраюцца падобныя тэндэнцыі ў Беларусі?**

— Эміграцыя з Афрыкі і Азіі ў Заходнюю Еўропу мела эканамічныя прычыны. Напрыклад, да прыезду на працу ў Германію туркаў заахвочваў менавіта ўрад гэтай дзяржавы. Францыя спрыяла пераезду ў краіну жыхароў тагачасных французскіх калоній. А сённяшняя эканамічная сітуацыя прымушае еўрапейскія народы спыняць працэсы іміграцыі.

Але ў Беларусі ж, наадварот, існуе праблема эканамічнай эміграцыі — выезду з краіны яе грамадзян.

**— Я меў на ўвазе іншых людзей — тых, якія атрымалі беларускае грамадзянства пасля канфліктаў з уладамі краінаў Балтыі, пенсіянераў Савецкай Арміі ды іншых, з якіх і складаецца група, што ясна вызначае сваю калі не этнічную, дык моўную прыналежнасць.**

— Сёння мы не маем дзяржаўных органаў, якія б займаліся праблемамі гэтых людзей, ні заканадаўства, што рэгулюе іх статус, бо далёка не ўсе яны з'яўляюцца грамадзянамі краіны...

**— Да апошняга часу нацыянальныя грамадскія і палітычныя дзеячы звярталіся да пачуцця нацыянальнай годнасці і еднасці беларусаў. Ці не стаў сам факт існавання вашай арганізацыі знакам разумення беларускай элітай факта шматэтнічнасці і шматкультурнасці нашага грамадства?**

— Разгортваючы свае праекты, мы не зыходзілі з нейкіх пастулатаў, а наадварот, імкнуліся іх сфармуляваць, вывучаючы рэальны стан грамадства. Мы зыходзілі з аксіёмы адкрытасці беларускай культуры. На мой погляд, імкненне часткі беларусаў вылучыцца, адасобіцца, стаўленне да сябе як да меншасці ў варожым асяроддзі — гэта вынік падсвядомага, статкавага жадання выжыць, збіўшыся ў гурток, ізаляваўшыся ад свету і займаючыся толькі сваімі праблемамі.

Нашая ж арганізацыя зыходзіла з пазіцыяў не дамінацыі беларускай культуры над іншымі ці, наадварот, нацыянальнага нігілізму, а з пазіцыі магчымасці існавання адзінай грамадзянскай супольнасці. Мы знаходзімся ў палеміцы з беларускімі дзяржаўнікамі (усё адно — урадавымі ці апазіцыйнымі), якія лічаць, што галоўнае — стварэнне моцнай дзяржавы, а ўсё астатняе прыдасца. Мы лічым, што без існавання дзейсных механізмаў самарэгулявання грамадства (у тым ліку і яго нацыянальных праблем), без уліку інтарэсаў усіх нацыянальных груп нармальная беларуская дзяржава паўстаць не можа. Шмат хто з дзеячаў апошняга часу разлічваў на тое, што дзяржава, спрыяючы беларушчыне, паўплывае такім чынам на ўсіх нацыянальна несвядомых грамадзян, зрабіўшы іх беларусамі. Гэта былі марныя спадзяванні, бо прадстаўляць інтарэсы і вырашаць праблемы нацыянальных груп павінна не дзяржава, а нацыянальныя грамадскія арганізацыі.

**— Якой Вы як даследнік нацыянальных праблем бачыце будучыню Беларусі і беларушчыны?**

— Прадбачыць будучыню — няўдзячная справа. Але рэальнай яе патрэбаю я бачу ўсведамленне ўсімі полікультурнасці беларускага грамадства. Месца ж беларускай культуры ў гэтым асяроддзі я бачу як дах, пад якім у адной прасторы змогуць суіснаваць розныя нацыянальныя і культурныя традыцыі. За такую беларускую дзяржаву мне не было б сорамна.

Я памятаю спрэчкі паміж лібераламі і БНФ аб тым, што важней — правы асобы ці правы нацыі. Але падставаў да гэткіх спрэчак не было і няма. Працэс фармавання беларускай нацыі яшчэ не скончыўся. А прыналежнасць да гэтай нацыі будзе вызначацца не этнічным паходжаннем, а культурным і грамадзянскім выбарам. Беларуская нацыя фармуецца з розных людзей. І таму нельга падзяляць людзей на прыхільнікаў і ворагаў беларусізацыі. Патрэбная не яна, а фармаванне грамадскай талерантнасці да ўсіх без выключэння нацыянальных культур. Хаця гэты прынцып не адмяняе іншага — дзеяння на карысць нацыянальнай культуры і як часткі яе — мовы без азірання на тое, якая частка насельніцтва з'яўляецца іх носьбітамі.

**Распытаў У.ПАНАДА.**

# "Наша доля" — 90 год таму...

Першай **нелегальнай** беларускай (беларускамоўнай) газетай можна лічыць славутую "Mužyckuju praúdu" (1862-1863). Першай **легальнай** — "Нашу долю". 1 (14) верасня 1906 года выйшаў у свет першы яе нумар. Рэдактарам-выдаўцом газеты быў Іван Тукеркес, а ініцыятарам — група дзеячаў Беларускай сацыялістычнай грамады. Вось што пісаў А.Луцкевіч у сваёй кнізе "За дваццаць пяць гадоў (1903-1928): Успаміны аб працы першых беларускіх палітычных арганізацый: Беларуская рэвалюцыйная грамада, Беларуская сацыялістычная грамада" (Вільня, 1928): "У канцы лета 1906 году адбылася ў Вільні йшчэ адна наша партыйная канфэрэнцыя (у кватэры "Кудлы" — Кастэцкага — на Юраўскім завулку). Памятаю з гэтае канфэрэнцыі два вельмі важныя мамэнты: асуджэньне экспропрыяцыі, з'арганізаванай у Менску бяз ведама і згоды Ц.К., і — пастанова распачаць легальную працу. Апошнюю справу рэфэраваў Іван і тут кінуў думку аб патрэбе друкаваньня **легальнае беларускае газэты** — ведама, ў грамадоўскім духу. Прапазыцыя Івана была прынята аднагалосна, у выніку чаго праз пару мясяцаў і нарадзілася "Наша Доля", замененая пасьля "Нашай Нівай" . (С. 35). Аўтар, відавочна, памыляецца, бо насамрэч заменай гэта назваць немагчыма. Выйшла ўсяго шэсць нумароў "НД", пяты і шосты друкаваліся ўжо ў часе існавання "Нашай Нівы", паралельна з другім-чацвёртым нумарамі апошняй. Акрамя таго, трэба адзначыць, што пяць нумароў "НД" было канфіскавана, а ў студзені 1907 г., рашэннем Віленскай судовай палаты, "Нашу долю" забаранілі.

Друкавалася кірыліцай і лацінкай. Тут змяшчаліся творы Якуба Коласа, Цёткі, Ядвігіна Ш. Гэтак у першым нумары дэбютаваў у друку Якуб Колас (верш "Наш родны край"). "Наша доля" мела характэрныя рысы сацыял-дэмакратычнай газеты. Але кірунак яе выглядаў абмежаваным: самі выдаўцы адрасавалі яе толькі вясковаму люду.

Пасля забароны "НД", беларускія нацыянал-патрыёты доўгі час, як вядома, гуртаваліся вакол "Нашай нівы". Якое ж месца ў гісторыі займае "Наша доля"? Як першая легальная беларускамоўная газета яна для нас — гістарычная каштоўнасць. І яе факсімільнае перавыданне, здзейсненае ў наш час,— сведчанне таму.

**Генадзь КАЖАМЯКІН.**

# Па якіх юрыдычных нормах судзілі ўкраінцаў?

Судовае пасяджэнне па справе сямі ўкраінскіх грамадзян, якія абвінавачваюцца ў арганізацыі масавых беспарадкаў пад час "Чарнобыльскага шляху-96", пачалася з хадайніцтва аднаго з падсудных, Андрэя Шаптыцкага, які запатрабаваў разгледзець пытанне аб відэазапісе, які незаконна зрабіў у СІЗО рэжысёр Ю.Азаронак. Як вядома, апошні пад выглядам следчага практычна ўзяў паказанні ў арыштаваных, якія не ведалі, з кім размаўляюць, пасля чаго тэлефільм з тымі кадрамі зрабіў пэўны ўплыў на грамадскую думку адносна зняволеных. Але і суддзя Рыгор Казарыцкі, і пракурор С.Целяшэвіч палічылі, што фільм Азаронка не з'яўляецца доказам вінаватасці ці невінаватасці падсудных. Адхіленыя былі і хадайніцтвы адвакатаў У.Калеснікава, Н.Дударавай і А.Скаруліса.

Усе сем падсудных — У.Салавей, С.Патапаў, А.Дрыгайла, В.Гоч, А.Бурлака, А.Шаптыцкі і А.Міранюк абвергЛі сваю прыналежнасць да ўкраінскай патрыятычнай арганізацыі УНА-УНСО, якую ім настойліва спрабаваў "прышыць" суддзя Р.Казырыцкі. У.Салавей, былы "афганец" і ліквідатар наступстваў аварыі на ЧАЭС, сцвярджаў, што прыехаў у госці да тых, з кім разам ваяваў; студэнт А.Бурлака — знаёміцца з беларускімі рэлігійнымі святынямі, бо ён, як руплівы вернік, палічыў, гэта неабходным у гадавіну чарнобыльскай трагедыі; іншыя таксама наведалі Менск па асабістых матывах. Тым больш адмовілі падсудныя той факт, што былі знаёмыя паміж сабой да 26 красавіка 1996 года.

Для доказу сувязі А.Бурлакі з УНА-УНСО суддзя спрабаваў выкарыстаць паказанні маці падсуднага В.Бурлакі, але, нягледзячы на свой цяжкі нервовы стан пад час допыту ў судзе, тая патлумачыла: тое, што пад час папярэдняга следства яна як быццам казала аб сяброўстве сына ў УНСО — вынік таго, што следчы дапісаў у пратакол рэчы, якіх яна не казала.

Сведкі-міліцыянты, апытаныя на наступны дзень судовага пасяджэння, блыталіся ва ўласных паказаннях. Напрыклад, ім было цяжка патлумачыць, чаму ім адначасова прыйшлося выступаць у якасці складальнікаў рапартаў і пратаколаў аб затрыманні і сведкаў тых жа затрыманняў.

Перад праглядам відэастужкі з запісам падзей 26 красавіка быў дапытаны апаратар-міліцыянт М.Дубавіцкі, які паведаміў: стужка гэтая — не першапачатковая, а змантажаваная з некалькіх. Ён жа сцвярджаў, што менавіта пад час мантажу кавалкаў плёнкі запомніў У.Салаўя, хаця агульная думка і адвакатаў, і прысутных у зале была такая: немагчыма пазнаць на экране хаця б адзін твар. Пазней высветлілася: гэты ж апаратар здымаў падсудных пад час іх знаходжання ў прыёмніку-размеркавальніку.

Выступілі ў якасці сведак і лідэры БНФ Ю.Хадыка, Л.Баршчэўскі і В.Сіўчык. Ю.Хадыка заявіў, што БНФ не запрашаў у Менск прадстаўнікоў УНА-УНСО, але фронт нікому не адмаўляе ва ўдзеле ў мерапрыемствах. Баршчэўскі і Сіўчык паказалі, што яны пазнаёміліся з падсуднымі ў камеры ізалятара, дзе разам сядзелі пасля 26 красавіка.

Тым не меней, на падставе сведчанняў міліцыянтаў, праўдзівасць якіх вельмі сумніўная, пракурор С.Целяшэвіч запрасіў для ўкраінцаў пакаранне, звязанае з пазбаўленнем волі тэрмінам ад 1 года да 2,5 гадоў.

Як ні дзіўна, суддзя Р.Казырыцкі цалкам задаволіў просьбу гэтага дзяржаўнага абвінаваўцы. У выніку У.Салавей пазбаўлены волі на 2 гады 6 месяцаў, С.Патапаў і А.Шаптыцкі — на 2 гады 3 месяцы, А.Дрыгайла — на паўтара гады, А.Бурлака, А.Міранюк і В.Гоч — на 1 год.

А Казырыцкі пераконваў прысутных на працэсе, што ён абсалютна незаангажаваны і аб'ектыўны арбітр. Калі меркаваць па ходзе працэсу і яго выніках, цяжка адкараскацца ад думкі, што не было палітычнага заказу ўладаў, і суддзя з ім справіўся на выдатна. Такім чынам, суседзяў-украінцаў за цікаўнасць да беларусаў і спачування ім усё ж пасадзілі. І адмерылі жорстка.

**Язэп СІНІЦКІ.**

**Філалогія**

# СУМЕСНАЯ ПРАЦА БЕЛАРУСКІХ І НЯМЕЦКІХ МОВАВЕДАЎ

Шмат гадоў доўжыцца плённае супрацоўніцтва лінгвістаў БДУ і Рурскага універсітэта ў Бохуме. Яго вынікам сталі грунтоўныя даследаванні па славянскім і агульным мовазнаўстве, ініцыятарамі і кіраўнікамі якіх былі прафесар А.Супрун з беларускага боку і Х.Яхнаў — з нямецкага. У 1989 годзе ў вядомым мюнхенскім выдавецтве О.Загнэра выйшла першая сумесная праца вучоных кафедры тэарэтычнага і славянскага мовазнаўства Беларускага універсітэта і інстытута славістыкі Рурскага універсітэта ў Бохуме — зборнік артыкулаў "Probleme der Textlinguistik" / "Праблемы лінгвістыкі тэксту", якая атрымала шэраг станоўчых рэцэнзій у Беларусі і за мяжой. Другі зборнік з такой жа назвай выйшаў у 1992 годзе ў Менску. Трэцяя, апублікаваная праз два гады ў Візбадэне, кніга была прысвечана катэгорыі мадальнасці і яе рэалізацыі ў розных славянскіх мовах. Сёлета пад агульнай рэдакцыяй А.Супруна і Х.Яхнава выйшаў чацвёрты том сумесных даследаванняў — "Славянска-германскія моўныя паралелі". У прадмове адзначаецца, што вывучэнне такіх моўных сувязяў мае ў Беларусі ўстойлівую традыцыю. Яшчэ ў пачатку шасцідзесятых гадоў Інстытут мовазнаўства Акадэміі навук Беларускай ССР быў агульнасаюзным каардынацыйным цэнтрам па славяна-германскіх даследаваннях у галіне лінгвістыкі. Тады ў Менску (у 1961 і 1965 гг.) былі праведзены дзве навуковыя канферэнцыі, выдадзена (у 1963 г.) манаграфія В.Мартынава і зборнік "Типология и взаимодействие славянских и германских языков" (Менск, 1968). Супастаўляльныя даследаванні ўсходнеславянскіх і германскіх моў актыўна праводзіліся і праводзяцца ў Менскім дзяржаўным педагагічным інстытуце замежных моў (цяпер — Менскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце), аб чым сведчаць манаграфіі А.Шаранды, А.Няхай і Т.Паплаўскай, П.Копанева і іншых.

Зборнік "Славянска-германскія моўныя паралелі" ўключае 13 артыкулаў на беларускай, нямецкай, расійскай, польскай, чэшскай і серба-харвацкай мовах, сярод якіх найбольшую цікавасць выклікаюць працы Ю.Крыстафсана, В.Мартынава, Х.Яхнава, С.Кордзіч, А.Супруна. У артыкуле Б.Плотнікава "Катэгорыя роду назоўнікаў, агульных для нямецкай і славянскай моў" (стар. 132-138) словы з беларускай, расійскай, чэшскай, славацкай, украінскай і іншых славянскіх моў параўноўваюцца з падобнымі па гучанні і паходжанні словамі нямецкай мовы. Аўтар вылучае некалькі тыпаў адпаведнасцяў паміж словамі гэтых моў з пункту гледжання катэгорыі роду. Напрыклад, адзін з такіх тыпаў складаюць неадушаўлёныя назоўнікі, якія ў нямецкай мове маюць мужчынскі, а ў славянскіх — жаночы род: ням. *der Sabel* — бел. *шабля*, укр. *шабля*, рас., макед., балг. *сабля*, пол. *szabla*, славен. *sablja*, славац. *šablja*, сербахарв. *сабља*. Цікавыя назіранні Б.Плотнікава над функцыянаваннем граматычнай катэгорыі роду ў мастацкім тэксце. Ён, у прыватнасці, звяртае ўвагу на антрапамарфічную функцыю форм мужчынскага і жаночага роду (праўда, шмат раней аб гэтым пісалі Л.Шчэрба, Р.Якабсон і іншыя). У радках з "Новай зямлі":

*Смятана гэта з тварагом —*
*Краса-дзяўчына з жаніхом...*
*Трасецца сетачка сняжынак,*
*Як смех прыгожанькіх дзяўчынак,*—

як зазначае аўтар, "граматычная родавая падтрымка ў параўнаннях дзяўчыны са смятанай і апасродкавана са сняжынкай, а жаніха з тварагом спрыяе ўзнікненню больш каларытных і неабходных мастацкіх уяўленняў. Праўда, пры гэтым ствараюцца цяжкасці для носьбітаў іншых моў як пры перакладзе паэтычных тэкстаў, так і пры іх успрыманні. Чытачам, для якіх нямецкая мова з'яўляецца роднай, лёгка асэнсаваць, у прыватнасці, параўнанне дзяўчыны са смятанай, бо тут адпаведны выраз *die saure Sahne* 'смятана' жаночага роду, але для носьбітаў польскай ці славацкай моў асацыяцыя дзяўчынкі і сняжынкі не знаходзіць граматычнай падтрымкі, бо тут лексічныя адпаведнікі *płatek śniegu* і *chumačik sněhový* мужчынскага роду. Для носьбіта славенскай мовы параўнанне жаніха з тварагом не ўяўляецца матываваным, бо ў гэтай славянскай мове слова *skuta* 'тварог' жаночага роду".

Кніга "Славянска-германскія моўныя паралелі" ні ў якім разе не прэтэндуе на паўнату або вычарпанасць праблематыкі хаця б аднаго напрамку славяна-германскіх канфрантатыўных даследаванняў. Яе асноўная задача — распрацоўка канкрэтных пытанняў параўнальнага апісання славянскіх і германскіх моў, а таксама пацвярджэнне таго, што гэта праблематыка застаецца актуальнай і прыцягвае пільную ўвагу вучоных як у Германіі, так і ў Беларусі.

**Алесь КІКЛЕВІЧ,**
**Алена ПАЦЕХІНА.**

**Рэха**

# Што праўда, то не грэх

Не праходзіць — і не пройдзе! — боль у душы, выкліканы адкрытым пісьмом Прэзідэнту, накіраваны, па сутнасці, супраць гістарычнай праўды (гл. "Народную газету" за 19 чэрвеня). Яго аўтары, відаць, настолькі абцяжараныя званнямі і рэгаліямі, што ім нестае сіл, каб даказаць слушнасць сваіх выказванняў. А сей-той з падпісантаў, паводле публікацый у незалежным друку, наогул не надта дасведчаны ў пытаннях, якія ўзнімаюцца ў лісце. Таму не дзіўна, што іх абвінавачванні, у прыватнасці, наконт "явно пробэнээфовской направленности, даже в художественном оформлении" энцыклапедычнага даведніка "Беларусь" гучаць зусім галаслоўна. На самай справе яго стваральнікі, як добра бачна са зместу артыкулаў пра мінуўшчыну, кіраваліся не поглядамі якой-небудзь партыі, руху ці асобы, няхай сабе і вельмі высокапастаўленай, а нацыянальнай канцэпцыі гісторыі сваёй Бацькаўшчыны.

Што да мастацкага афармлення фаліянта, дык тут "крамола", пэўна, угледжана ў малінавым прамавугольніку, які ўпрыгожвае кожную яго старонку. Ну, як з такога выпадку не нагадаць беларускую прыказку: "Карова целіцца, а ў быка зад баліць"?

Усіх, хто знаходзіцца ў палоне бальшавіцкіх ідэй і міфаў, надта раздражняе і просты напамінак нядаўна вернутых з небыцця падзей і імён нашай даўніны. Так, у спіс апальнай літаратуры, складзены падпісантамі, уключана "Ілюстраваная храналогія гісторыі Беларусі", дзе няма ніякіх каментараў да выкладзеных падзей. Сярод іх, зразумела, нагадваецца і Аршанская бітва 1514 года — галаўны боль імперцаў. Але ж яна ўжо не замоўчваецца і маскоўскімі выданнямі, прынамсі, "Хроникой истории России. IX-XX вв." (аўтар М.Зуеў), якая выйшла ў свет год таму. Пры гэтым беларуская кніга падае гістарычны факт больш мякка, чым расійская: у першай гаворыцца пра "паражэнне 80-тысячнага войска маскоўскіх ваявод", а ў другой — пра "разгром войск Василия III".

Але, здаецца, пракрустава ложа на Беларусі зноў становіцца прыладай для выкання таго, што ў лісце цынічна называецца "работой по восстановлению исторической правды". На гэтую струхнелую "мэблю", як і раней, спрабуюць "укладваць" матэрыялы для энцыклапедычных выданняў, каб прыстасаваць іх пад мерку ранейшых агітпрапаўскіх стэрэатыпаў. Дзякаваць Богу, што з даведніка "Беларусь" не паспелі зрабіць тое, што зараз робіцца з іншымі кнігамі ў выдавецтве "БелЭн".

Вяртаючыся да гаворкі пра гэтае унікальнае выданне, выкажу меркаванне, што ніводзін іншы аднатомнік не дае столькі разнапланавых адказаў на пытанні "пра сябе і свой народ", якія, згодна В.Ластоўскага, павінен ведаць "кожны сучасны культурны чалавек". І дарма тыя "заслуженные" і "народные" палохаюць недасведчаных чытачоў русафобіяй, якой быццам "пронизаны" "отдельные статьи".

Так, аўтары "Беларусі" не ідэалізуюць і не міфалагізуюць падзеі, што ў савецкай імперыі дзеля памылкова зразумелай "дружбы народаў" і іншых мэт падаваліся быццам у крывым люстэрку. (Напрыклад, пад час Лівонскай вайны 1558-83 гг., калі войска Івана IV спустошыла шэраг беларускіх гарадоў, узяло ў няволю нямала людзей, забрала золата нашых продкаў, не сцвярджаецца, як бывала, быццам бы "В 1562 году русские войска вступили в пределы Литовского государства и начали освобождение белорусских земель". Ні ў адным артыкуле даведніка няма ні слова, ні паўслова аб тым, што можна было б кваліфікаваць як прадузятасць ці, тым больш, непрыязнасць да расійскага народа. Ёсць жа праўдзівыя, неабвержныя факты, якія, аказваецца, не даспадобы якраз беларусафобам. Але ж што праўда, то не грэх!

Сказанае, аднак, не азначае, што ў энцыклапедычным даведніку ўсё бездакорна. Дый цяжка ўявіць, каб першае выданне такога роду абышлося без хібаў. Але яны не маюць нічога агульнага з тым, што прыпісваецца ў лісце-даносе "национал-экстремистам" — аўтарам і прадметных, і біяграфічных артыкулаў.

...Упершыню ўзяўшы ў рукі энцыклапедыю "Беларусь", стаў шукаць артыкул пад назвай "Рэспубліка Беларусь". Але... не знайшоў, што дужа ўразіла. Стваральнікі даведніка, думаецца, зрабілі немалазначную памылку, не змясціўшы на яго старонках такую публікацыю. Мне могуць запярэчыць: пасля перайменавання нашай дзяржавы прайшло няшмат часу, а важнейшыя падзеі, якія адбыліся ў апошнія гады, адлюстраваныя ў асобных артыкулах. Усё гэта так. Трэба, аднак, пагадзіцца і з тым, што з даведніка было б больш карысці, калі б чытачы знайшлі ў ім публікацыю, якая дае агульную карціну палітычных і эканамічных працэсаў ва ўмовах дзяржаўнага суверэнітэту. Змешчаная паводле алфавітнага прынцыпу падачы матэрыялаў, яна з'явілася б лагічным завяршэннем артыкулаў, прысвечаных княствам ранняга сярэднявечча на беларускай зямлі, Вялікаму Княству Літоўскаму, БНР і БССР. (Апошні артыкул заканчваецца падзеямі жніўня-верасня 1991 года).

Немалаважна і тое, што было б выканана, на жаль, парушанае агульнапрынятае правіла, згодна якога матэрыялы пра краіны, гарады, перыядычныя выданні і г.д. у даведачнай літаратуры друкуюцца пад іх сучаснай (апошняй) назвай.

Аб'ём фаліянта такі, што наўрад ці магчыма было яго павялічваць. Таму падрыхтаваны мной пералік артыкулаў, якія хацелася б дадаткова бачыць у кнізе, адкладваю ўбок. І ўсё-такі цяжка ўстрымацца, каб не спытаць, чаму, акрамя простага ўпамінання, у ёй нічога няма пра Беларускую ваенную акругу, якая тры чвэрці стагоддзя дыслацыравалася на тэрыторыі рэспублікі, вядома, што яшчэ нядаўна Беларусь была самай мілітарызаванай краінай у Еўропе. На яе зямлі праходзілі буйнейшыя манеўры і вучэнні, праводзіліся незлічоныя стрэльбы з розных відаў зброі, штодзённая баявая падрыхтоўка салдат і афіцэраў. Вельмі дарэчы была б публікацыя пра БВА і таму, што на яе базе створаны Узброеныя Сілы Беларусі.

Цяпер палітыкі і генералітэт — і не толькі тутэйшыя — зноў імкнуцца зрабіць рэспубліку фарпостам. Дрэнна, што ні пра гэта, ні пра шэраг іншых нязручных для сучаснага рэжыму фактаў і падзей нашага сённяшняга жыцця даведнік не распавядае.

Скажу і аб недакладнасцях пры ўжыванні сістэмы спасылак (набраных курсівам), якія шырока скарыстоўваюцца ва ўсіх энцыклапедычных выданнях. На старонках аднатомніка сустракаюцца неапраўданыя спасылкі, калі чытач не знаходзіць дадатковай інфармацыі ў артыкулах, з якімі яму рэкамендуецца пазнаёміцца пры вывучэнні таго ці іншага пытання. Бадай, яшчэ горш, калі здараецца адваротнае. Вось прасцейшы прыклад. У біяграфічнай даведцы "Лангбард" пералічваецца асноўныя работы гэтага архітэктара, сярод якіх Дом урада, будынак Дзяржаўнага тэатра оперы і балета і да т.п. Спасылка даецца толькі на "Дом урада". Між тым, у публікацыі пра оперны тэатр ёсць інфармацыя, што адсутнічае ў біяграфічным артыкуле, прысвечаным архітэктару: аказваецца, будынак тэатра аднолены пасля вайны паводле праекта таго ж Лангбарда. У другой публікацыі — "Беларуская Народная Рэспубліка" — тэрмін "Менскае беларускае прадстаўніцтва" не выдзелены курсівам, хоць энцыклапедыя змяшчае даведку пра гэтае грамадска-палітычнае аб'яднанне і, галоўнае, у ёй ёсць дадатковыя звесткі пра БНР.

Такія прыклады можна доўжыць. Асабліва прыкметна не заўсёды прадуманая і адпаведным чынам рэгламентаваная сістэма спасылак на біяграфічныя артыкулы. Чытаеш адзін артыкул (скажам, "Філасофскую і грамадскую думку Беларусі") — і ў вачах мітусіцца ад мноства імён, набраных курсівам, а пераходзіш да другога (хаця б да "Эстэтычнай думкі Беларусі") — і не знаходзіш ніводнай спасылкі на біяграфічныя даведкі, змешчаныя ў кнізе.

І цалкам незразумела, чаму ў тэкстах артыкулаў прозвішчы спартсменаў (акрамя трэнераў), работнікаў такіх сфер, як культура, літаратура, мастацтва і некаторых іншых, прыводзяцца з адным ініцыялам, а астатніх дзеячаў — з двума. Пра колькасць ініцыялаў лёгка здагадацца па назве публікацыі: калі гэта, да прыкладу, "Беларуская мова", "Кіно" ці "Нацюрморт", дык толькі адзін, а калі "Венералогія", "Жывёлагадоўля" альбо "Спектраскапія", дык абавязкова два. (Тое ж, дарэчы, назіраецца і ў шэрагу іншых беларускіх энцыклапедычных выданняў — у адрозненне ад большасці маскоўскіх, дзе згаданая "дыскрымінацыя" не практыкуецца).

Усё гэта зусім не дробязі: у даведачнай літаратуры іх наогул няма, дакладней, не павінна быць. Як недапушчальна і грубае ўмяшанне ў гістарычную навуку дзяржаўных чыноўнікаў і іх падгалоскаў. Той, хто пасягае на свабоду навукі, садзейнічае ператварэнню яе ў звычайную служанку аўтарытарнай улады.

**Генадзь ЛАГУНОВІЧ.**

**Замежжа**

# Падзелены народ

Сёння ў свеце жыве мноства народаў, якія не маюць дзяржаўнасці альбо страцілі яе. Найбуйнейшым сярод іх з'яўляецца 22-мільённы народ курдаў, раскіданы па некалькіх краінах — Азербайджану, Арменіі, Іраку, Ірану, Сірыі ды Турцыі.

Больш за пяць гадоў таму, у красавіку 1991 года, пасля таго, як ЗША і іх заходнія саюзнікі спынілі агрэсію Ірака супраць Кувейта, на поўначы Ірака пераможцамі была створаная зона паветранай бяспекі над тэрыторыяй кампактнага пасялення трох мільёнаў іракскіх курдаў.

Стварэнне зоны бяспекі, з якой была выведзеная армія Ірака, дала курдам магчымасць самім кантраляваць заселеную імі вялікую тэрыторыю — каля 50.000 квадратных кіламетраў. Для народа гэта быў час вялікіх спадзяванняў: курды, дагэтуль уціснутыя рэжымам Садама Хусэйна, атрымалі свабоду слова, магчымасць наладзіць нармальнае нацыянальнае жыццё. Яны стварылі нават тэле- і радыёстанцыі, праграмы якіх гучалі на іх мове і прадстаўлялі менавіта іх пункт гледжання. Людзі спадзяваліся, што зроблены першы крок да стварэння свабоднага Курдыстана.

Але курды змушаныя дорага плаціць за сваю свабоду. Як і ўсе жыхары Ірака, яны церпяць ад санкцыяў, накладзеных на краіну ў пакаранне за напад на Кувейт. Але, акрамя таго, іракскі ўрад, незадаволены іхнімі сепаратысцкімі памкненнямі, праводзіць уласную блакаду заселенага курдамі анклава. У выніку галоўнай патрэбаю курдаў сёння сталі прадукты. Астатнія рэчы страцілі былую цэннасць. 80% курдскіх сем'яў, каб пракарміцца, прадаюць мэблю з дамоў. Але хатніх рэчаў за гады блакады ў людзей засталося няшмат.

Колішнія спадзяванні абрынуліся — чаму? Як аказалася, яшчэ пяць гадоў таму, народ, які выглядаў адзіным, аказаўся падзеленым на мноства палітычных групаў і фракцый, кожная з якіх імкнулася да аднаасобнай улады. Тэрыторыя курдаў аказалася падзеленай на дзве часткі, кантраляваныя дзвюма найбуйнейшымі фракцыямі — Патрыятычным саюзам Курдыстана і Дэмакратычнай партыяй Курдыстана. Іх лідэры, якія раней адкрыта варагавалі адзін з адным, пасля курдскага нацыянальна-вызвольнага паўстання 1991 года на час аб'ядналі свае намаганні, каб удзельнічаць у выбарах 1992 года, вынікам якіх меўся стаць утварэнне аўтаномнага Іракскага Курдыстана. Аднак стасункі паміж дзвюма нацыянальнымі арганізацыямі неўзабаве зноў сталі пагаршацца, і ў 1994 годзе паміж імі пачаўся збройны канфлікт, нягледзячы на тое, што моўных, нацыянальных ці рэлігійных супярэчнасцяў паміж імі не існавала і не існуе дагэтуль.

У свой час дыпламаты ЗША спрабавалі замірыць варагуючых між сабою курдаў, але поспеху гэтыя захады не мелі. Таму сёння адна з курдскіх арганізацый вядзе сапраўдную вайну з другой. Саюзнікам напаснікаў у гэтай грамадзянскай вайне стала рэгулярная армія Ірака.

Гэты канфлікт пакладзе крэс апошнім спадзяванням курдаў на атрыманне аўтаноміі — так думаюць многія з іх.

**Падрыхтаваў У.ПАНАДА.**

**Замежжа**

# Колькасць забітых у Чачні расіянаў можа перавысіць 80 тысяч

Афіцыйна названыя Аляксандрам Лебедзем агульныя лічбы чалавечых ахвяраў вайны ў Чачні — 80 тысяч забітых і 240 тысяч параненых і пакалечаных — у сапраўднасці могуць быць у некалькі разоў большымі. Аб гэтым карэспандэнту расійскай газеты "Известия" Аляксандру Дзюблю заявіў адказны супрацоўнік прадстаўніцтва Чачэнскай рэспублікі пры ўрадзе Расійскай Федэрацыі Аляксандр Таміраў.

На ягоную думку, цяпер абсалютна немагчыма дакладна вызначыць колькасць пацярпелых мірных расійскіх жыхароў розных нацыянальнасцяў. Адно відавочна: яна перавышае страты вайскоўцаў, па дадзеных Лебедзя, у 4 разы. Але калі апошнія яшчэ неяк паддаюцца ўліку, то ўсе ахвяры сярод грамадзянскага насельніцтва зараз (асабліва пасля 6 жніўня — новага штурму Грознага) ніхто не ў стане вызначыць інакш, чымся разумовым шляхам... У гэтай сувязі Таміраў успомніў, што адразу пасля Вялікай Айчыннай вайны афіцыйна паведамлялася, што страты Савецкага Саюза на ёй склалі 1,5 мільёна чалавек, і толькі пазней улады былі вымушаныя прызнаць, што загінулі дзесяткі мільёнаў.

**У.А.**

# Малітва ўначы

Ціш. Спакой. Адпачывае начны Менск. Бясконцыя цёмныя вуліцы, цьмянае святло ліхтароў, старыя стомленыя дрэвы. Вяртаюся дамоў. Мільгаюць у адзіноце яркія вокны на паверхах доўгіх шэрых дамоў. Камусьці не спіцца. Хаця ўжо ноч. Зорная ціхая ноч уваходзіць у горад. У такі час думаеш, жывеш мінулым, успамінамі.

Заплюшчваю вочы і ўспамінаю Францыю — краіну багацця і раскошы, забаў і бесклапотнасці. Дзесьці за тысячы кіламетраў адсюль жывуць без праблем, якія патрэбна было б вырашаць, без клапот аб заўтрашнім дні. Гасцінныя французы не вяртаюцца ў мінулае. Ім не даводзіцца заглядваць у будучыню. Яны жывуць сучасным. Яны прымаюць беларускіх дзяцей у сваіх велізарных дамах, усміхаюцца, з захапленнем апавядаюць пра выдатныя мясціны свайго маленькага гарадка. Але чамусьці сумна і журботна. Жадаеш бачыць СВОЙ горад, СВАЕ вуліцы, СВАЕ твары, чуць СВАЮ гаворку, СВАЮ мову.

Яны ніколі не будуць ведаць, як цудоўна гуляць па начным Менску, бо яны ўвогуле не ведаюць, што існуе такі горад. "Расія?.. Беларусь?.." Для іх няма розніцы. "Вы размаўляеце па-беларуску і па-расійску? Дык гэта ж адна і тая ж мова!" — усміхнуўшыся, адкажуць яны вам, дап'юць з хрустальнага бакала шампанскае і пойдуць адпачываць. Яны ніколі не ўбачаць розніцы. Але ім гэта не патрэбна. Ці патрэбна гэта НАМ? Ці адчуваем мы яе? Розніца толькі ў беле-?

"Могучий и великий русский язык" даўно выцесніў мілагучную родную беларускую мову. Гарады, вуліцы, кірмашы... Гоняць, гоняць беларускую мову. Зневажаюць, называюць "грубым диалектом русского языка". Праз гады давіць на нас цяжар бальшавіцкай спадчыны. Рэфармавалі нашу мову, рэфармуюць і будуць рэфармаваць. Але раней гэта рабілі прымусова, а зараз...

Забыліся мы на СВАЮ мову, на СВАІХ дзеячаў. Хто даў той Расіі, што жадала ўзяць не толькі іх, Васіля Тацішчава (са смаленскіх князёў), Фёдара Глінку, Фёдара Дастаеўскага, Дзмітрыя Пісарава, Аляксандра Твардоўскага (з барысаўскай шляхты)? Велізарны спіс беларускіх імён у гісторыі розных краін. Хто даў ім іх? Тая краіна, якая была іх Радзімай. Была калісьці магутнай, уплывовай, мірнай Белай Руссю.

Захварэла яна. Мову адняло. Пройдзе час і, калі нічога не зменіцца, будзем з вамі хаваць родную мову ў роднай зямлі. Можа і родная зямля тады не нашай з вамі ўжо будзе. Час адпомсціць за нашу бяздзейнасць і верне падзеі амаль 80-гадовай даўнасці, калі панавалі на нашай зямельцы і немцы, і палякі, і летувісы — усе, акрамя беларусаў. І мову тады страцім, і зямлю.

Памолімся ж, каб збыліся мары і адбыўся цуд... Кожны народ на нешта спадзяецца, на нешта моліцца. Іспанцы па-іспанску, французы па-французску. Кожная мова знайшла сваю краіну.

Позна маліцца... Тысячы бледных губ шэптам чытаюць "Отче наш"... Расія на губах, у розумах, у сэрцах, а прад вачыма — Беларусь — краіна без мовы. Позна маліцца... Цуду не будзе. Малітвы не дапамогуць. Зменіце словы, розумы, сэрцы — і мова ўваскрэсне.

Холадна. Адкрываю вочы. Роздумы і ўспаміны нейкім чынам зліліся ў кашмарным сне. Пакуль што сне.

Горад адпачывае. Не глядзяць ужо на мяне сваімі яснымі вачыма шэрыя аграмадныя дамы.

Зорка падае... Хай ніколі рэальнасць не заменіць мой сон.

Ціш. Спакой. Спіце, людзі. Адпачывайце...

**Надзея ГУСАКОЎСКАЯ.**
г.Менск.

# Веруем

*Да 2000-годдзя хрысціянства*

## Першыя нацыянальныя Цэрквы свету

Рэлігійныя спрэчкі ў Рымскай імперыі адбываліся разам з грамадскім і палітычным напружаннем. Тэндэнцыі адасаблення правінцыі Егіпта і Сірыі спрасцілі працэс утварэння нацыянальных цэркваў, паколькі мясцовы люд даўно знаходзіўся ў апазіцыі да імперскіх урадоўцаў, якіх прысылалі на высокія пасады з іншых правінцый. У апазіцыі да візантыйскай і грэцкай уладаў выспявала нацыянальная свядомасць у коптаў, сірыйцаў і армян. Паспрыяла ўтварэнню нацыянальных цэркваў нязгода ерархаў з рашэннямі халкідонскага і эфескага сабораў.

### Каптыйская Царква

Каптыйская монафізіцкая Царква моцна развілася ў Егіпце. Да яе належалі копты, якія сваіх праціўнікаў называлі "імперскімі хрысціянамі".

Пачатковай датай паўстання каптыйскай Царквы лічыцца 536 г., калі цэзар Юстыян I асудзіў на сінодзе Сэвэрыян і запрасіў у Канстанцінопаль александрыйскага патрыярха Тэадозіяса, каб той вызнаў сінадальныя ўхвалы. Патрыярх адмовіўся і быў адхілены ад улады і павінен быў ісці на выгнанне, але схаваўся ў палацы царыцы Тэадоры. Адтуль ён слаў у Егіпет лісты, у якіх намаўляў монафізітаў на стварэнне незалежнай царквы. Пасля яго смерці егіпецкімі монафізітамі заняўся Якуб Барадаі, вялікі мітрапаліт сірыйскіх монафізітаў. Яго дзейнасць прывяла да расколу між каптыйскай і якабіцкай цэрквамі. Новы каптыйскі патрыярх Пертас у хуткім часе высвяціў 70 біскупаў для лакальных цэркваў. Развівалася паралельная структура монафізіцкай царквы.

Развіццю незалежнай царквы спрыялі два чыннікі: неадпаведныя сваёй пасадзе патрыярхі, якіх прызначалі цэзары, а таксама непаслядоўная рэлігійная палітыка цэзараў.

### Якабіцкая Царква

Была створана і ўзяла сваю назву ад Якуба Барадаі, які даўно меў монафізіцкія погляды, аднак у 542 г. атрымаў біскупства ў Эдэсе па просьбе царыцы Тэадоры.

Ён стаў актыўным місіянерам і прапагандатарам монафізіцтва. Шмат падарожнічаў па розных правінцыях імперыі і высвяціў вялікую колькасць святароў. Яго пераследвалі імператарскія ўрадоўцы, але яму заўсёды ўдавалася схавацца. Вельмі часта Якуб апранаўся ў жабрачае адзенне, з чаго ўзяўся яго прыдомак Барадаі — пакрыты лахманамі. У Сірыі і прылеглых краінах Якуб здолеў стварыць царкоўную ерархію на чале з патрыярхам Сергіясам і яго наступнікам Сэверам. Пазней якабітам удалося арганізаваць царкоўную структуру і ў Персіі.

Доўгі час якабіцкая Царква не адрознівалася ад агульнай сусветнай ні канонамі, ні абрадамі, а толькі хрысталагічнай навукай і сірыйскай мовай замест грэцкай. Развіццё якабіцкай тэалогіі адначасна залатым перыядам сірыйскай мовы, на якой былі напісаны "Гісторыя Царквы" і "Дзеянні ўсходніх святых".

Монафізіцкае хрысціянства дайшло нават да паўночнай і сярэдняй Аравіі, асяродкам якога сталі гарады Басра і Русофа. У 575 г. Аравію занялі персы, што затармазіла развіццё хрысціянства, а ў першай палове VII ст. пачалася ісламізацыя гэтай краіны.

### Царква ў Арменіі

Мяжа рымскай імперыі праходзіла праз гэту краіну і захоплівала толькі яе пятую частку, якая звалася Малой Арменіяй. Толькі доўгатрывалая барацьба з персамі прынесла значнае павелічэнне тэрыторыі Арменіі ў VI ст. Яе жыхары, якія ад біскупа Мясропа мелі развітую літаратуру на роднай мове, імкнуліся да палітычнай і царкоўнай незалежнасці. Яны не хацелі падпарадкоўвацца экзарху ў Цэзарэі Кападоцкай, у кампетэнцыю якога ўваходзіла прызначэнне армянскага мітрапаліта, які завецца каталікосам. Армянская Царква мела вельмі шчыльныя сувязі з Царквой перскай, што моцна паспрыяла стварэнню аўтакефальнай армянскай монафізіцкай царквы.

### Персідская Царква

Пад персідскім панаваннем развівалася нестарыянская царква, якая паўстала ў візантыйскай імперыі на аснове апазіцыі школы ў Эдэсе. Частка біскупаў антыахійскага патрыярхату, якая не прыняла уніі 433 г. і баялася імператарскіх рэпрэсій, схавалася ў Персіі. Асуджаны за прапаведзь нестарыянства Бар Саўма стаў біскупам у горадзе Нісбісе. Бар Саўма стаў арганізатарам аўтакефальнай царквы. Гэтыя дзеянні зрабілі лягчэйшымі яго адносіны з персідскімі каралямі, якія падтрымлівалі незалежнасць Персідскай Царквы ад антыахійскага патрыярхату. Персідскую Царкву ўзначаліў мітрапаліт, які зваўся каталікосам. Ён меў права збіраць сінод і біскупаў з усёй краіны для справаздачы. Вялікай місіянерскай працай былі заняты манахі Персідскай Царквы, якія распаўсюджвалі сваю дзейнасць нават да Тыбета і Кітая.

**Падрыхтаваў Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**

## Канфлікт паміж Касцёлам і дзяржавай у Чэхіі

Ва ўсіх камуністычных краінах значная частка царкоўнай маёмасці, зямлі і будынкаў перайшла пад кантроль дзяржавы. Пасля краху камунізму ўсе рэлігійныя арганізацыі пачалі дамагацца ад урадаў вяртання сваёй маёмасці, але з'явіліся перашкоды, як гэта бачна на прыкладзе Чэхіі.

Шэсць гадоў пасля падзення камуністычнага рэжыму рыма-каталіцкі касцёл у Чэхіі сустракаецца з абыякавасцю і нават варожасцю з боку палітыкаў. Ерархія ўспрымае гэта з вялікай горыччу, бо не адчувае вялікай розніцы ў параўнанні з камуністычным рэжымам, які ў Чэхаславаччыне абыходзіўся з Касцёлам значна больш сурова, чым у Польшчы і Вугоршчыне. Касцёл намагаецца вяртання 175 тысяч гектараў зямлі і сотняў будынкаў, якімі валодаў яшчэ ў 40-я гады. Каталіцкі Касцёл, які атрымлівае некаторую фінансавую падтрымку з боку дзяржавы, лічыць, што, вярнуўшы назад сваю маёмасць, утрымаўся б сам і загарантаваў бы памяшканні духавенству. Многія храмы, кляштары ды іншыя пабудовы былі пры камуністах моцна запушчаныя, і зараз іх рэстаўрацыя патрабуе каля 1,5 млрд. долараў.

Кардынал Міласлаў Влк крыўдзіцца на правацэнтрысцкую кааліцыю, якая ў свой час не задаволіла патрабаванняў Касцёла, калі мела абсалютную большасць у парламенце. Зараз, калі на палітычнай сцэне падняўся ўплыў сацыял-дэмакратаў, справа яшчэ больш ускладнілася. Лідэр партыі Зэман заявіў, што заблакуе ў парламенце спробу задаволіць маёмасныя патрабаванні Касцёла. Хаця антыклерыкалізм часткова звязаны з камуністычнай атэізацыяй у Чэхіі, дзе толькі 25% заяўляюць, што вераць у Бога, ён бачны не толькі сярод былых камуністаў. У парламенце толькі хрысціянскія дэмакраты выразна падтрымліваюць дамаганні Касцёла. Гісторыкі лічаць, што антыклерыкалізм глыбока ўкаранелы ў грамадстве ўжо з XVII ст., калі ў рамках Контррэфармацыі Габсбургская манархія накінула каталіцызм пераважна пратэстанцкай Чэхіі. Калі ў 1990 годзе Чэхію наведаў папа Ян Павел II, яго сустракалі натоўпы, аднак у часе наступнага візіту прыём быў ужо халодны. Касцёл скардзіцца на палітыкаў, што амаль нічога не робяць у пытаннях рэвіндыкацыі, што яго дамаганні сталі палітычным футболам заміж таго, каб развязаць праблемы разумна і прагматычна. "Кожны, хто даказвае, што царкоўная маёмасць, якой валодае дзяржава, з'яўляецца грамадскай уласнасцю, ужывае дэмагагічныя, папуліцкія трукі, якімі камуністычны рэжым абмяжоўваў нашу дзейнасць апошнія сорак гадоў",— заявіў кардынал М.Влк. Чэшская рэспубліка ўжо прыняла законы, якія дазваляюць былым уласнікам атрымаць назад маёмасць, канфіскаваную камуністамі. На практыцы гэта азначае, што Касцёл можа дамагацца толькі таго, што было адабрана ў яго пасля лютага 1948 года, калі камуністы захапілі ўладу шляхам дзяржаўнага перавароту. Касцёл аднак страціў большасць сваёй маёмасці ўжо раней, калі Чэхаславаччына фармальна была яшчэ шматпартыйнай дэмакратыяй. Прэм'ер-міністр В.Клаус, больш вядомы сваёй прыхільнасцю да рынкавай эканомікі, чым пабожнасцю, заяўляе, што робіць усё дзеля развязкі праблемы. Ён выказваецца за вяртанне Касцёлу нерухомасці, але ўзамен за спыненне дзяржаўных датацыяў.

**Паводле матэрыялаў беларускай службы радыё "Свабода".**

## *Рэлігійная хроніка*

35 тысяч еўрапейскіх цыган-пратэстантаў правялі на былой ваеннай базе ў французскім дэпартаменце Вагезэ свой з'езд. Былая авіяцыйная база, запоўненая тысячамі аўтамабіляў з прычэпамі, стала месцам рэлігійных мерапрыемстваў цыган-евангелікаў з усёй Еўропы. З'езд праводзіла евангельская місія "Жыццё і святло". Улады накіравалі падтрымліваць парадак 250 паліцыянтаў.

***

У кляштары Бадыя Пасіньяна каля Фларэнцыі пачалася III міжнародная летняя школа па праблемах рэлігіі ў Еўропе. Заняткі арганізавалі факультэт грамадскіх навук у Фларэнцыі і 25 універсітэтаў і міжнародных асацыяцыяў вывучэння рэлігійных праблем. Цяперашнія заняткі прысвечаныя рэлігіі і сацыяльным крызісам у Заходняй і Усходняй Еўропе. У рабоце школы ўдзельнічаюць 70 вядомых тэолагаў з розных краін.

***

Пагоршыўся стан здароўя вядомай сваёй дабрачыннай дзейнасцю лаўрэата Нобелеўскай прэміі маці Тэрэзы. 20 жніўня яна была дастаўлена ў шпіталь з прычыны праблемаў сэрца і цяпер падключана да апарата штучнага дыхання. 27 жніўня маці Тарэзе споўнілася 86 гадоў. Лекары не трацяць надзеі, што ім удасца яе выратаваць.

***

Нямецкія ўлады заявілі, што дакладна азнаёмяцца з фільмам "Фенамен", у якім галоўную ролю іграе Джан Траволта, член секты "Chesh of Santolege". Кіруючыя ў ФРН хрысціянскія дэмакраты і сацыял-дэмакраты выступаюць супраць паказу фільма ў Нямеччыне пачынаючы з 3 кастрычніка. Яны баяцца, што фільм паслужыць прапагандзе гэтай секты. Секта прадстаўляецца як таталітарная арганізацыя, якая ўжывае ў сваёй дзейнасці крымінальныя метады і павінна быць забаронена. Раней хрысціянскія дэмакраты заклікалі да байкоту фільма з удзелам Тома Круіза, таксама члена секты, і дамагаліся ад баварскага ўрада, каб сяброў секты не дапускалі да публічных пасадаў.

***

У Расіі, у горадзе Задонск, адбыліся ўрачыстасці ў памяць свяціцеля Ціхана, які 135 гадоў таму далучаны да ліку святых. Вялікі духоўны дзеяч, пісьменнік і епіскап Варонежскі нарадзіўся ў 1724 годзе ў Наўгародскай губерні. Ён добраахвотна адмовіўся ад епіскапскай катэдры і пасяліўся ў задонскім манастыры, дзе і былі напісаны яго асноўныя рэлігійныя і літаратурныя творы. Вядомыя расійскія пісьменнікі і філосафы Ф.Дастаеўскі, І.Ляскоў і М.Бярдзяеў высока цанілі яго асветніцкі талент, чысціню жыцця і самаахвярнасць. Ціхан быў прататыпам Засімы ў "Братах Карамазавых" Дастаеўскага.

***

28 жніўня Праваслаўная Царква адзначыла вялікае свята Прачыстая. У крамлёўскім Успенскім саборы ўрачыстую літургію адслужыў патрыярх Аляксей II разам з многімі епіскапамі. "Царыцу нябесную мы называем самым дарагім імем, нябесная маці. Гэтым мы вызнаем, што яна з намі на зямлі і сваім хадайніцтвам, дапамогай і мацярынскай любоўю аграває нашы сэрцы",— сказаў патрыярх у сваім прывітальным слове.

**Паводле беларускай службы радыё "Свабода".**




*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*

*Францішак Багушэвіч*

## Вучымся

**Вікторыя ЛЯШУК,**
*кандыдат філалагічных навук*

# Стрыжань

## Зразумець ды ацаніць: Фразеалогія публіцыстыкі

*Экспрэсіўны моўны сродак — вобраз, метафара, абноўлены фразеалагізм — як правіла, выкарыстоўваецца для таго, каб актывізаваць працэс пазнання праз уздзеянне на фантазію чытача і тым самым прыцягнуць яго ўвагу да праблемы артыкула...*

**У.Д.Еўтухоў.**

Раней мы разглядалі стылістычную ролю такіх выслоўяў, як прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы, аналізавалі вельмі характэрнае для публіцыстыкі вобразнае складанае найменне — перыфразу. Гэтыя сродкі спрыяюць фармаванню ў мове перыёдыкі ўстойлівых канструкцый з выразным публіцыстычным гучаннем, якія становяцца яркай прыкметай функцыянальнага стылю. Набыткам і адзнакай публіцыстыкі з'яўляюцца, напрыклад, выразы **людзі добрай волі, інтэлектуальны Чарнобыль, ураджайныя соткі, абвальнае зніжэнне ўзроўню жыцця, выратаваць з поўнага заняпаду** ды інш.

Творчая думка публіцыста можа напаўняць новым зместам, сацыяльнай ацэнкай і агульнамоўныя фразеалагізмы, дапаўняючы ці вар'іруючы іх слоўны склад — пераасэнсаваць іх. Напрыклад, пад уплывам народнай фразеалогіі Канстанцін Тычына даў свайму праблемнаму артыкулу назву "Лён спрадвеку адзяваў Беларусь, а цяпер самога "раздзелі" (часопіс "Фінансы, улік, аўдыт", 1994, № 10). У гэтай публікацыі выразна праяўляецца стылёвая і зместавая роля ўласцівых публіцыстыцы моўных стандартаў:

**Адным словам, лён для беларускага селяніна заўжды быў надзейнай апорай...**

**Развал жа ільнаводства пачаўся з пераходу да рыначнай эканомікі, калі дзяржава стала дазваляць павышаць цэны на тавары па патрабаванню вытворцаў, чаго не магло здарыцца ў Англіі, Францыі, Італіі, Іспаніі ці Японіі, дзе паўнамоцны на гэта толькі рынак і дзяржава, якая на вялікую долю важных для насельніцтва тавараў цэны трымае пад жорсткім кантролем. У нас жа права павышаць іх было дадзена не ўсім, а толькі манапалістам, буйным прадпрыемствам, магутным галінам вытворчасці <...> Эгаістычныя манапалісты, да якіх тут жа далучыліся дзялкі, аматары лёгкай нажывы, карыстаючыся слабінкай... дзяржавы, зашчыравалі на ніве павышэння цэнаў...".**

У цытаваным урыўку устойлівыя выразы, стандартныя для перыёдыкі, акцэнтуюць і дынамічна падаюць важную ў аўтарскай канцэпцыі інфармацыю. Вядомая і знаёмая чытачам форма вызначае імгненнае і поўнае ўспрыняцце і разуменне зместу, што надзвычай важна для фармавання грамадскай думкі. Стылёвая роля ўстойлівых канструкцый звязана з іх значэннем, традыцыяй ужывання. Напрыклад, строгасць і катэгарычнасць перадаюць выразы: **важныя для насельніцтва тавары, трымаць пад жорсткім кантролем**. Якаснай характарыстыкай з адмоўнай ацэначнасцю з'яўляецца спалучэнне **аматары лёгкай нажывы**. Такую ж ацэначнасць набываюць (праз сваю негатыўную ролю ў цэнаўтварэнні) і выразы **буйныя прадпрыемствы, магутныя галіны вытворчасці**, якія звычайна ўжываюцца для ўвасаблення маштабнасці ды велічнасці вытворчасці.

Як бачым, экспрэсія ў публіцыстыцы цесна звязана з імкненнем выразна, зразумела, пераканаўча, эмацыйна перадаць грамадска значную інфармацыю, якую важна зразумець ды ацаніць.

## Практычная стылістыка

# Як выкарыстаць?

"Выкарыстоўваецца лён, як цяпер сказалі б, безадходна: з вяршкамі і карашкамі". У цытаваным сказе імкненне аўтара выказацца эмацыйна прывяло да нечаканых вынікаў — маўленчых памылак і стылёвых хібаў. Пачнём словам **безадходна**. Хоць і ўдакладняецца, што так сказалі б цяпер, аднак у беларускай мове ёсць традыцыйныя найменні — больш удалыя, чым гэтая сухая калька. У "Слоўніку сінонімаў і блізказначных слоў" М.К.Клышкі ёсць прыгожыя адпаведнікі **цалкам, поўнасцю, дарэшты, даастатку**, якія больш ярка і гнутка перадаюць змест. Слова **безадходна** адсутнічае і ў ТСБМ. РБС змяшчае аднакарэнны тэхнічны тэрмін — **адходы**. Дык ці варта аддаляцца ад уласных моўных набыткаў?

Уладзімір Юрэвіч справядліва заўважаў: "Перачытайце ў нашых газетах карэспандэнцыі пра ход сяўбы, і вы не сустрэнеце слоў "аднавор", "дваіць папар". Але ж у народзе шырока бытуе выраз "сеяць у аднавор", што азначае сеяць у глебу, адзін раз узараную. Газеты ж пішуць уніфікавана: "Калгас пасеяў па ўзаранай адзін раз глебе" альбо: "Механізатары прыступілі да паўторнага ўзорвання папару". Такая штучнасць не на карысць аўтарскай мэце выказвацца ярка і зразумела.

Яшчэ больш заўваг наконт устойлівага выразу **з вяршкамі і карашкамі**. Акрамя немілагучнасці (сутыкнення двух гукаў [і]), у ім заўважаецца сур'ёзнае парушэнне дакладнасці, двухсэнсоўнасць. У беларускай літаратурнай мове **вяршкі** абазначаюць не толькі 'верхнюю частку чаго-небудзь, верхавіну', але ў множналікавай форме маюць аманімічнае значэнне 'смятанка, тлусты верхні слой малака'. ТСБМ і двухтомны "Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы" І.Я.Лепешава са словам **вяршкі** падаюць толькі выраз **збіраць вяршкі** — 'збіраць самае лепшае'.

Карашком жа ў беларускай літаратурнай мове называюць 1. Месца, дзе сшыты лісты кнігі; задняя частка пераплёту. 2. Частку бланка, якая застаецца ў квітанцыйнай кніжцы пасля адрыву квітанцыі (ТСБМ). Так што ў значэнні 'падземная частка расліны' неабходна выкарыстаць форму **карэньчык**, аднак ці будзе выраз **з вяршкамі і карэньчыкамі** ўспрымацца закончанай адшліфаванай рытмізаванай фраземай?

Ёсць над чым паразважаць.

У запісах знакамітага беларускага этнографа і фальклрыста М.Я.Нікіфароўскага (1845-1910) занатавана слова **вярхоўка** — так на Віцебшчыне называлі верхнюю частку льнянога сцябла з галоўкамі. У народнай паэзіі, жывой гаворцы вядомыя таксама ўстойлівыя выразы і адметныя спалучэнні: **карэнне й насенне; карэннейка ды насеннейка; карэнне й верхавінне; з каранём ды верхавінай; сцябло і/ды верхавінне; каліўе (сцябліны) па вярхоўку.**

Прывядзём некаторыя з магчымых варыянтаў выпраўлення:

Выкарыстоўваецца лён даастатку, як кажуць,— карэнне й насенне (карэннейка ды насеннейка).

Апрацоўваецца лён дарэшты — каліўе па вярхоўку (сцябло і верхавінне).

Скарыстоўваюць лён цалкам, спрэс да верхавіны.

Скарыстоўваюць лён, як кажуць, да грунту: сцябліны з вярхоўкай.

## З гісторыі красамоўства на Беларусі

# Приязньство держати

*...О, мова беларуская! Твой гук заўсёды*
*Як рэха даўніх дзён.*
*Ты — мова мірнага, сардэчнага народа...*

**Віктар Гамуліцкі.**

**(Пераклад з польскай мовы Максіма Танка)**

Полацкі праект Гандлёвай дамовы Полацка і Рыгі напісаны 21 чэрвеня 1405 года ў форме паслання, у якім перададзена прыязнасць, адкрытасць, шчырае жаданне паразумецца. Ў грамаце адчуваецца жывое непасрэднае пачуццё, уласцівае эмацыйнай прамове. Душэўнымі, праніклівымі словамі ствараецца агульная міралюбная канцэпцыя раўнапраўных гандлёвых дачыненняў, падкрэсліваецца роля ўладных асобаў, воля грамадзян: ***А се мы полочане, вси добрыя люди и малыи, надеючесь на бога святого, Софея милость и князя великого Витовта здровье, хочем с тобою, княж местерю, любовь держати и с твоего братьею со всеми ридели*** [рыцарамі, вершнікамі]. ***Також хочем с вами, ризьских ратьмяне и со всеми ризькии купьци межи себе приязньство держати и любовь на обе стороне крепко.***

У полацкім праекце пералік уласнікаў і ўладных асобаў не такі падрабязны, як у рыжскім праекце, аднак у абодвух дакументах ужыты словы ***князь, местерь, ридель, ратьмян (ратьман)***. Суб'екты дамовы найбольш часта абазначаны паводле свайго грамадзянства (***полочане, немцы***) ці занятку (***купьци***) — з абавязковым удакладненнем (праз адпаведны прыметнік) дзяржаўнай прыналежнасці (ризькии, немецькии), размежаваннем прыналежнымі займеннікамі (***наш, ваш***).

Звесткі юрыдычнага характару перададзены апавядальнай інтанацыяй. Падрабязна выкладзены заканадаўчыя нормы, акрэслены тагачасныя асаблівасці міждзяржаўнага гандлю. Пры гэтым улічваюцца і ўпарадкуюцца сувязі з іншымі княствамі, для чаго ўжываюцца ў тэрміналагічным значэнні словы ***новгородцы, москвичи***. Для абазначэння беларускіх тэрыторыяў ужыта тагачасная традыцыйная назва — ***Литовьская земля***:

***А торговати немецькому купцю с гостем Литовьское землі добровольно.***

***А с новъгородци немецкому купцю торговати, а промеж има ходити нашему полочанину: занеже*** [бо] ***нас новъгородци не пустят оу Немечькии двор торговати без своего новьгородца.***

***А с москвичи торговати вашим немьцем, также нашему полочанину межи ими ходити, торговати; занеже на нас москвичи тамьгу*** [гандлёвую пошліну] ***емлють.***

Сведчаннем высокага культурнага і моўнага развіцця Полаччыны з'яўляецца багатая гандлёвая тэрміналогія, якая дазваляе дакладна, канкрэтна, сутнасна і нешматслоўна фармуляваць артыкулы дамовы: ***тамьга*** [гандлёвая пошліна], ***наметъ*** [дадатак да тавару пры продажы], ***розница*** [рознічны гандаль].

Прадпісальная частка дакумента вызначаецца катэгарычнасцю і выразнасцю патрабаванняў, пададзеных інфінітыўнымі формамі: ***А мимо города Польтескъ немецькому купьцю не ходити, торговати немьцем оу Полотьсце.***

***А малое вам торговли не купити оу Полотьсце по розничи*** [розніцаю].

***А корьчмы вам у нас оу Полотьсце не держати.***

Завяршае гэты грунтоўны дакумент з 18 артыкулаў важнае для палітычных стасункаў сцвярджэнне: ***А старыму делу, што ся оучинило межи себе, того не поминати и вам и ни нам, на обе стороне.***

Прыязнасць, патрабавальнасць і адказнасць з'яўляюцца важнымі стылеўтваральнымі рысамі гэтага бясспрэчна цікавага і гісторыку, і філолагу дакумента, у якім жыве шчырае жаданне мірнага, раўнапраўнага супрацоўніцтва, адчуванне ўласнай годнасці і вартасці.

## Ствараем энцыклапедыю "Новай зямлі"

**Валянціна ВЫХОТА,**
*кандыдат педагагічных навук*

# Коласавы зернеткі

*(Працяг.)*

*Ўздыхнуў Ксаверы: — **шкада** пана!*
*Ох, бедны: выбраўся зарана!*
*А жыць бы мог, такі здаровы,—*
*Ну, чалавек, як корч дубовы.*

**Шкада** 1. Пра пачуццё жалю, спагады і пад. да каго-, чаго-н. (ТСБМ). **Жаль**. 3. скорбь (БРС).

У слоўніку Р.Клапенбах ёсць выраз, які поўнасцю суадносіцца з выразам "шкада пана!" b) so stirbt er. — Schade um ihn. Er ist ein vorzüglicher Jurist (C.F.Meyer). schade жаль, прискорбно; um den ist es nicht schade! этого (человека) не жаль! (GDRW).

*— Што так, то так, ды працы **шкода**,*
*Якую мы тут палажылі;*
*Зямлю так добра мы ўгнаілі.*

**Шкода**[2] безас. у знач. вык. Тое, што і **шкада** (ТСБМ);

**Шкада** 2. Пра нежаданне аддаць, страціць і пад. што-н. (ТСБМ).

schade. b) was mit etw., jmdm. geschiet, ist bedauerlich: es ist schade um die Mühe, die ich darauf verwendet habe (WDG).

*— Вядома, бацькаўшчыны **шкода**,—*
*Сказаў Антось у тоне згоды.*

Параўнайце: um diese Vase ist es nicht schade (WDG).

*— Эх, **шкода**, брат: няма клакотак!*
*Ну, хоць бы з парачку трашчотак!*

**Шкада** 2. вводн. сл. жаль (БРС); жаль schade (РНС); schade 1. "(O wie) schade!" (WDG): schade: 1. <Ausruf des Bedauerns> [o] wie, zu schade!" (WW)

*А потым, брат, калі рвануўся,*
*Ўсё к чорту — вуда і кручок,*
*Пайшоў гуляць мой шчупачок!*
*А я, брат, толькі аблізнуўся!*
*— Ах, вось **шкада**! З кручком і з дротам?*

Выраз: — Ах, вось шкада! — у гэтым урыўку таксама азначае воклiч шкадавання, што "шчупачок" сарваўся. І тут пасуе паралель: [zu, nur] schade, daß ...! (WW).

Яшчэ адно значэнне слова **шкода** бачым у эпізодзе сустрэчы Міхала з ваўком, які трапіў у праломку.

*Цьфу ты! аж **шкода** яго стала —*
*Так вочы жаласна глядзяць,*
*Ну, вось, даль-бог, шкада страляць!*

**Жаль** 1. Пачуццё жаласці, спагады, выкліканае чыёй-н пакутай (ТСБМ); жалость Mitleid n (РНС); Mitleid, das starke, innere Anteilname am Leid des anderen; Mitleid erfaßt, überkommt jmdn. (WDG).

*(Працяг будзе.)*

## Да 400-годдзя Берасцейскай уніі

**Алена ЯСКЕВІЧ,**
*кандыдат філалагічных навук*

# Першая унія Рэчы Паспалітай і Вялікага Княства Літоўскага

Ідэя першай уніі Польшчы і Літвы была выклікана дынастычнымі інтарэсамі заняпалага каралеўска-княжаскага дому Пястаў. Кароль Лоіс ці Людовік (з дому Анжу), згодна асабліва пашыранай у часы гатычнага Рэнесансу на яго радзіме ў Францыі традыцыі жаночага наследавання трона, дамагаецца (праз амаль поўнае вызваленне шляхты ад падаткаў)* кароны для сваёй дачкі Ядвігі. І насуперак волі, яшчэ тады дзяўчынкі, Ядвігі каралеўскі дом вымушаны быў пайсці на яе шлюб з вялікім князем Ягайлам (1386 г.). Прычынай таму таксама была і агрэсія Тэўтонскага Ордэна, які быў канчаткова разбіты ў час знакамітага Грунвальда аб'яднанымі сіламі ўсіх славянскіх народаў, таксама саюзнымі войскамі Польшчы і Княства ў 1387 годзе Чырвоная Русь была вызвалена ад венгерскага панавання. У 1400 годзе папа Баніфацый IX задавальняе просьбу каралевы Ядвігі аб адкрыцці Кракаўскага універсітэта (ужо пасля яе смерці) з чатырма факультэтамі, у тым ліку і галоўным для Польшчы — багаслоўскім.

Гарантам шчырых сімпатый, адчування крэўнай еднасці ў адносінах беларусаў да Кароны быў сам каралеўскі дом Ягелонаў. Як вядома, тры шлюбы не прынеслі каралю Ягайлу спадчынніка. Але чацвёрты шлюб 74-гадовага караля з маладзенькай князёўнай Сафіяй Гальшанскай даў Польшчы і Літве двух магутных каралёў і князёў Уладзіслава і Казіміра. Такім чынам, у прадстаўнікоў дому Ягелонаў цякла беларуская кроў, у гэтым і хавалася моц дзяржаўнага саюза дзвюх дзяржаў Кароны і Княства. Вось з якой непрыхаванай цеплынёй апісвае славуты Ян Вісліцкі ў "Прускай вайне" каралеву Сафію:

Дзівосная знойдзена дзева.
Дачка зямлі Беларускай, слынная,
слаўная па ўсіх краінах,
Німфаў, багіняў пераўзыдзе, пекнаты не адымеш,
Соф'яй яе наракаюць у людзе,
аратыя славяць,
**Воблік чаруе яе, як і бляск**
красамоўства.

Сватам гэтага плённага для дзвюх дзяржаў сужонства быў Вітаўт, тым больш што яго жонка Юліянія даводзілася стрыечнай сястрой Сафіі. Ужо з часоў панавання Уладзіслава, караля аб'яднанай польска-беларуска-чэшска-венгерскай дзяржавы, пачынаецца сапраўдны Рэнесанс на гэтых землях.

Стварэннем знакамітай Шарашоўскай Бібліі беларусы таксама абавязаны каралеве Сафіі. Яна не пажадала чытаць Святое Пісанне ні на лаціне, ні на польскай мове, а толькі на роднай мове бацькоў і прадзедаў. Сімпатыямі каралевы Сафіі тлумачыцца той факт, што старабеларускі пачатак выразна пераважае ў моўным кангламераце помніка.

---

** Маецца на ўвазе знакаміты Кошыцкі акт 1374 года (pacta conventa), згодна якога шляхта вызвалялася ад падаткаў, за выключэннем 2-х грошаў з лана — a manso.*

## Жывое слова

# Яглы

Некалі Якуб Колас трапна сказаў: "Для дзяцей найбольшае свята — абы наесціся багата!" Праўда, гэтая згадка пра дзяцей далёкай мінуўшчыны. Але дзеці ўсіх часоў не былі абыякавыя, чым іх накормяць, чым пачастуюць. Памятаю і з свайго маленства. Бывала, набегаешся, налётаешся за дзень, прыляціш надвечар і з парога, ледзь дух пераведшы, пытаешся: "А што вячэраць будзем?" І мама вельмі часта, весела смеючыся, казала: "А сёння ў нас на вячэру яглы!" А што гэта за яглы — яна гэтак жа весела адказвала: "А гэта такія яглы, што ня еўшы спаць ляглі." Хоць і малы яшчэ быў, але зразумеў, што жарт жартам, а ў ім ёсць пагроза, што могуць за якую-небудзь правінку пакласці спаць без вячэры. Калі трохі падрос, пра гэтыя яглы мне таксама часта нагадвалі, асабліва за тое, калі, загуляўшыся, не прыходзіў у пару дадому. Пра гэтыя яглы, мабыць, чуў у сваім маленстве шмат хто. Але адказаць на пытанне, што такое "яглы", наўрад ці можа.

У 1985 годзе вядомы мовазнаўца, паэт і перакладчык Валянцін Рабкевіч падрыхтаваў і выдаў зборнічак прыказак, прымавак, помавак "Паслухай, што людзі кажуць..." На старонцы сто дваццатай ён занатаваў:

На вячэру яглы,
што так спаць ляглі.

Занатаваў гэтую рыфмаванку з ягламі Валянцін Рабкевіч у вёсцы Аксаміты, што на Капыльшчыне. Да мяне ж яна прыйшла перад самай вайною ў Мормалі, што на цяперашняй Жлобіншчыне.

Паміж іншым, у жывых беларускіх народных гаворках сустракаецца і дзеяслоў "ягліць". Яго, прыкладам, занатаваў Рыгор Яўсееў у сваім сімпатычным слоўніку народных гаворак "Маці казала так..." Дзеяслоў "ягліць", паводле слоў укладальніка, абазначае моцна чагось хацець.

З такім жа значэннем: "прагна хацець, дакучаць просьбамі" — занатавана згаданае слова і ў "Слоўніку беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі". *"Яглiў, яглiў — нічога не выйшла. Чаго ты ягліш?"*

Усё ж, мусіць, былі на свеце якіясь яглы, калі пра іх не забываюцца праз вякі, калі пра іх так часта гавораць, згадваюць. Гавораць загадкава.

То хай яны мо жывуць сабе гэтак таямніча і надалей застаюцца такімі таямнічымі, якімі былі дагэтуль, і собяць гадаваць нашых дзяцей дапытлівымі, цікаўнымі і нагадваюць, што з маленства трэба трымацца пэўнага парадку і паслуху. А інакш будуць есці тыя яглы, што не еўшы спаць ляглі.

**Уладзімір СОДАЛЬ.**



Палессе багатае на фальклорнае мастацтва. Песні, сказанні, абрады тут перадаюцца з пакалення ў пакаленне. Студэнтка другога курса філалагічнага факультэта Берасцейскага дзяржаўнага універсітэта **Наталля Дунькові** праходзіць практыку ў роднай вёсцы Новая Папіна Драгічынскага раёна. А распавядае ёй пра мясцовыя песні і гаворкі **Любоў Іванаўна Бозік** (на здымку). Яна вядомая ў акрузе як збіральніца песняў, прыказак, народных паданняў.

**Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.**

# І смех і грэх

## *Пачутае "У Лявона"*

**ПРЫКЛАД**

— Курыш?
— Не, перасіліў сябе, каб не падаваць сынам дрэнны прыклад.
— То і мне, мабыць, годзе патрабаваць у бацькоў грошы.

**АХ, МАШЫНЫ, МАШЫНЫ...**

— Даўно не бачыліся! Як маешся?
— Маюся на лецішчы. Пакуль збіраў грошы на машыну, то жыў. А цяпер саслалі... А ты?
— І мяне замянілі кампутарам.

**ДЗВЕРЫ І КАВАЛЕРЫ**

— Лёлечка! Ці праўда, што Вы пасля дня нараджэння мусілі рабіць рамонт. Кажуць, што столь і сцены былі заліты шампанскім...
— Плёткі, даражэнькая! Толькі дзверы замянілі.
— І прыгожай быць дрэнна: кавалеры дзверы ломяць.
— Ды не, не зламалі. Яны пабілі іх нагамі, стукаючыся.
— Але ж хамы! Не — каб рукамі.
— У руках жа былі падарункі.

**АПЯКУН**

— Нешта не відаць твайго сябра...
— Якога?
— Таго, што апекаваўся старымі ўдовамі і сіратамі.
— Калі ягоная жонка даведалася пра іх сапраўдны ўзрост, то сябрам апякуецца ўжо адвакат.

**ЗА ПРАШЧУРАВЫ ГРАХІ**

Лёля свайму мужу:
— Вось квіток — плаці за прашчуравы грахі.
— Але ж гэта рахунак з кравецкага атэлье!
— Каб Адам не ўгрыз яблык, то мне не трэба было б апранацца.

**ФІЛОСАФ І ПРАГМАТЫК**

— Чаго задумаўся?
— Ды вось вырашаю, што старэйшае: яйка ці курыца, але вырашыць не магу.
— То я больш дасведчаны: дакладна ведаю, што перш было вяселле, а развод — пасля.

**ЛЕПШ ПОЗНА**

— Штосьці васпан сёння прыпазніўся.
— Лепш позна, чым ніколі.

**АДПАВЕДНЫ МУЖЧЫНА**

Маладыя наведвальніцы шынка просяць Лёлю навучыць іх, як у натоўпе ўбачыць адпаведнага мужчыну.
— Гэта той, хто на вас аглядаецца.

**ВУНДЭРКІНД**

— Ты ведаеш, які ў мяне разумны сынок,— хваліцца бывалец шынка.— Калі настаўнік пачаў пытацца ў дзяцей, хто з вядомых нашых вынаходнікаў — ці Семяновіч, што першым зрабіў шматступянёвую ракету, ці Чарноўскі, вынаходнік падводнага чаўна, ці Ёдка-Наркевіч, якога называлі "электрычным чалавекам",— самы знакаміты, то мой вундэркінд яму адказаў:
— Самы лепшы вынаходнік — гэта той, хто прыдумаў канікулы.

**ХТО БОЛЬШ СПРЫЧЫНІЎСЯ?**

— Мая першая кніга пра каханне ўтрая павялічыла колькасць чытачоў у нашым горадзе,— хваліцца вядомы пісьменнік.— А колькіх яна заахвоціла да чытання наогул!..
— Магу з шаноўным паспрачацца, — пярэчыць яму Лёля, — што да развіцця чытальніцтва найбольш спрычыніліся паштоўкі, якія я пасылала сяброўцы...

## *Пароды*

*Георгій ЮРЧАНКА*

### Расціўцікаўся

*Аддалі першаснеззе, мой лёс!*
*.............................*
*За трохтраўе, дзе чарку бярэм...*
*.............................*
*Заціўцікана ліпы спявалі...*
**Уладзімір Барысенка.**

Пяцівяззе, бы ў страшным судзе,
Несціхана трасе двухасінне.
Пра каханне размовы штодзень
Васьмідуб'е вядзе з трохрабіннем.

Сяміклённе мне значыла след,
Не спыняўся на гразкай дарозе,
Бо мяне з аднахацця у свет
Напрамкі павяло шматбяроззе.

— Ціў-цілік, цілілік,— з трох бакоў
З растапырнага чулася пер'я...
Я ж за цьмянь каламутных радкоў
Прабачэнь не прашу ў шматпапер'я.

## *Афарызмы*

✧ Калі ўсе маюць адно і тое ж меркаванне — відавочна, што ніхто не абдумаў справу да канца.
*Вальтэр Ліпман.*

✧ Звычайна ненавідзім тое, што да нас падобнае, уласныя недахопы, убачаныя збоку, абураюць нас.
*Марсель Пруст.*

✧ Трэба маўчаць, або казаць штосьць, што лепшае за маўчанне.
*Піфагор.*

✧ Будучыня ў значнай ступені ўзнікае з умоў жыцця жанчыны, але не з меркавання мужчыны.
*Луі Арагон.*

✧ Большасць людзей занадта занятыя сваёй асобай, каб мець час на злосць да іншых.
*Фрыдрых Ніцшэ.*

✧ Хацеў спарадзіраваць тэатр, гэта значыць свет.
*Эжэн Ёнэску.*

✧ Эра рыцарства мінула. Замяніла яе эра сафістаў, эканамістаў і калькулятараў.
*Эдмон Бэрк (1797 г.).*

✧ Прагрэс абапіраецца на ўласцівым кожнай істоце імкненні жыць па-над свае матэрыяльныя магчымасці.
*Самуэль Бутлер.*

✧ Ідэал прагрэсу замяніўся сёння ідэалам пераменаў: не турбуюцца пра тое, каб было лепш, але толькі каб было па-новаму, нават калі гэта ўвачавідкі горшае, чым было даўней.
*Генры дэ Мантэрлен.*

# Спіс фундатараў ТБМ у 1996 годзе:

22.01.96 НПК "Тэхналогія"
25.01.96 КС "Літара"
(25 працэнтаў ад прыбытку згодна са Статутам ТБМ)
29.01.96 Аўтарскія ганарары газеты "Наша слова"
— Бароўскі Анатоль
— Ляскоўскі Алесь
5.02.96 ААТ "Каскад-93"
03.06.96 Творчая майстэрня архітэктара Гаўрыкава А.С.
06.06.96 Чэрвеньская рада ТБМ
03.07.96 ААТ "Менскі маргарынавы завод"

## *У старых фаліянтах*

# Паліто за 100 франкаў

Аўтар цікавых аповесцяў пра падарожжы пад вадой, на Месяц, у Арктыку — Жуль Верн быў не толькі таленавітым пісьменнікам, але і неардынарнай асобай. У гэтым чалавеку спалучаліся самыя цнатлівыя рысы, а таксама і людскія слабінкі.

Жуль Верн не толькі захапляўся навуковымі праблемамі, але і, як сапраўдны даследнік, вывучаў і сістэматызаваў іх. У сваіх кнігах ён апісаў падзеі і прыгоды герояў так, нібы сапраўды падарожнічаў з імі. Прыкладам, даследнікаў Арктыкі заўсёды здзіўляла кніга "Прыгоды капітана Гатэраса". Варта пачытаць яе, казалі яны, і вы нібы пройдзеце шляхам, што вядзе на Паўночны полюс праз праліў Шміта. Толькі пазней была раскрыта гэтая загадка. Працуючы над кнігай, Жуль Верн за вялікія грошы замовіў сабе ў Англіі дакладныя карты Арктыкі, бо на ягонай радзіме такіх не было.

Жуль Верн у дзяцінстве марыў стаць мараком. Дванаццацігадовым ён уцёк з дому, каб трапіць юнгам на карабель "Карал", які рыхтаваўся плыць у Індыю, але бацька пераняў яго ў порце.

Усе іншыя падарожжы Жуль Верна нараджаліся пераважна ў мяккім крэсле, мабыць тады, калі ён драмаў пасля добрага абеду. А есці ён быў вялікі аматар!

У маладыя гады Жуль Верн любіў жартаваць, сказаць вострае слоўца, любіў гутарыць да позняй ночы. У другой палавіне жыцця ён значна змяніўся. Мяркуюць, што гэта адбылося праз прыкры выпадак. Ягоны сваяк, што мучыўся ад маніі праследу, выстраліў у пісьменніка, спрабуючы абараніць таго ад уяўнага замахоўца. Рана была нязначнай, ды шок — глыбокі.

Ягоная жонка Ганарына любіла гучныя гулянкі і штогод двойчы склікала па 800 асобаў на баль. Жуль Верн мусіў вітацца з кожным госцем, але хутка пакідаў іх ды хаваўся ў спецыяльна вымураваную вежу, дзе быў ягоны пакойчык, накшталт турэмнай камеры. Там, звычайна, і пісаў, прачынаючыся з усходам сонца. Кожныя 12 месяцаў ягоны выдавец атрымліваў чарговы рукапіс.

Хаця папулярны пісьменнік і зарабіў шмат грошай, ён застаўся вельмі эканомным чалавекам. Неяк ягоны сын купіў сабе футра за тысячу франкаў. У адказ на папрок ён апраўдваўся: "Так, яно дарагое, але насіць буду дзесяць гадоў!" Тады Жуль Верн сказаў: "Я куплю паліто за сто франкаў, нашу яго дзесяць гадоў, а пасля загадваю яшчэ яго пераліцаваць".

## *Шэдэўры вуснай паэтычнай творчасці беларусаў*

### ПРЫКАЗКІ

Сем сёл, адзін вол, а дзесяць прыганятых.

На аднаго мужыка злыдняў талака.

Калі мужык здароў, дык у яго сем паноў.

На сем прыганятых адзін араты.

У калгасе добра жыць: адзін робіць, сем ляжыць (а як сонца прыпячэ, дык і гэты ўцячэ).

### ЗАГАДКІ

За сцяною касцяною салавейка шчабеча.

За сцяной касцяной цецярук балбоча.

За сцяною касцяною талалай брэша.

За сцяною касцяною тарандай скача.

За белымі бярозамі талалай брэша.

За белым бярэзнічкам тарарай жыве.

За белымі бярозамі балматут балмоча.

Паміж белымі бярозамі скакунец скача.

За белым тынам талалуй брэша.

(Язык).

### ВОСЕНЬСКАЯ ПЕСНЯ

* * *

— Авясец, мамухна,
Авясец!
А калі ж чорт сватоў
Прынясець?
— Пачакай, дачушка,
Пажнёмся,
Тады мы сватоў
Даждомся.
Мы ім вячэрку
Згатуем
Да сваіх сваточкаў
Участуем.
Купленая гарэлка
На куце,
Грыбіны пірог
На стале,
Пражоная яешня
У вагню.

### Анталогія беларускай народнай эратычнай паэзіі

* * *

Kaczalisie, walalisie
Jajca u kłuboczku,
Kacilisie, walilisie
Dzieu kam pad saroczku.
Wy, dzieuczata, niebazata
Puściecie nahrecca!
Na hulicy miacielica,
Niema dzie padziecca.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.
АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1.
Тэлефон: 233-17-83.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Вольга Кузьміч, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Уладзімір Панада, Зміцер Санько, Здзіслаў Сіцька, Югэн Цумараў, Генадзь Цыхун.
Адказны сакратар — Уладзімір Анісковіч.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.
Індэкс 63865. Замова 977

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". 220041, г.Менск, пр. Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 2521 паасобнік.
Падпісана ў друк 18.09.1996 г. у 15 гадзін.